№ 6.

„Загляне сонцэ
и ў нашэ ваконцэ!“




# Жалейка

Янки Купалы



Цэна поўрубель (50 кап.).

1908.

Суполка

„Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“

выдала пакуль што и прадае:

Biełaruski lementar abo pieršaja nawuka čytańnia, cena 6 kapiejek.

Pieršaje čytańnie dla dzietak biełarusaŭ. Napisała Ciotka, cena 6 kap.

Беларуски лемэнтар, або першая навука чытаньня, цэна 6 кап.

Першае чытаньне для дзетак беларусаў; злажыла Цйотка, цэна 6 кап.

Гутарки аб неби и зямли, цэна 15 кап.

Dudka Biełaruskaja, Macieja Buračka, cena 25 kap.

Dudka Biełaruskaja, pieknaje wydańnie, cena 50 k.

Pan Tadeuš. Pa polsku napisaŭ Adam Mickiewič na biełaruskuju hutarku pierewiarnuŭ Wincuk Marcinkiewič cena 25 kap.

Pan Tadeuš. Pieknaje wydańnie, cena 50 kap.

Hapon. Apowieść biełaruskaja Wincuka Marcinkiewiča. cena 15 kap.

Hapon. Pieknaje wydańnie, cena 30 kap.

Smyk Biełaruski Symona Reŭki s pad Barysowa (Pranciška Bohuševiča). Cena 20 kap.

№ 6.

„Загляне сонцэ
и Ў нашэ ваконцэ!“

# Жалейка

Янки Купалы.

Грай, мая жалейка,
Пей, як салавейка!
Апевай нядолю,
Апевай няволю,
И грымни свабодна,
Што жыве край родны.

*Янка Купала.*

ПЕЦЯРБУРГ.
Друкарня К. Пянткоўскага, Вялик. Пад'ячэская вул. № 22.
1908.

## Я не паэта.

Я не паэта, о крый мяне Божэ!
Ня рвуся я к славе гэт'кай ни мала.
Хоць песенку-думку и высную можэ,
Завуся я тольки—Янка Купала.
Славу паэтаў разносяць па свеце,
Вянки ўскладаюць и звоняць пахвалай,
Я ж циха йграю, хтож цихих прымеце?
Ат! ведама з вйоски—Янка Купала!
Кожны край мае тых, што апеваюць,
Чым йосць для народа упадак и хвала,
А Беларусы никогаж не маюць,
Нихай жэ хоць будзе Янка Купала.
Доляй убоги йон цихи, ня смелы,
Беда, яго маци, узгадавала,
Слйозы пагарды пье тольки век цэлы,
От, ведама, просты Янка Купала.
Песни начаў пець тэй мовай убогай,
Якой погарджаюць горка, недбала,
Пэўна и песен счураюцца многа,
От, ведама, здумаў Янка Купала.
Шчасця так рэдка над светам усходзе,
Но досиць бывае меци хоць мала,
Долюб каб бачыў у родным народзе,
А быўбы шчасливы Янка Купала.

Эт, с часам людзи ўпадаюць на силс,
Смерць скосе, глядзи и больш крыжам стала
Нехта спытае: хто ў гэтай магиле?
А напис пакажэ: Янка Купала.

---

## К песням.

Песни мае, песни!
Смуткаў маих дзеци,
Калиж час вам прыйдзе
Весяла запеци?
Ой! сваю и з вашай
Роўну долю бачу,
Плачыце вы, песни,
И я з вами плачу.
Хацеўбы вас, песни,
Зрачыся, пакинуць,
Силачкиж мне мала,
Буду ўжо так гинуць.
Выплакаў вас сэрцам,
Высниў вас душою,
Вальчучы з нядоляй,
Вальчучы з бядою.
И цяпер за мною
Ходзице вы ўсюдах,
И вясной па траўцы,
И ў восень па грудахъ,
Па снягу зимою,
Па загонахъ летамъ.
Вы мяне спазнали
З горам, з людчым светам.

Шмат чаго нагнали
Мне ў душу смутную,
И йшчэ знаю, знаю,
Шмат чаго пачую.
И так мне здаецца,
Скольки ни тужыци,
Са мной вы, я з вами,
Вечна будзем жыци.
Тольки, мае песни,
Смуткаў маих дзеци,
Калиж час вам прыйдзе
Весяла запеци?!

---

## С песьняў а сваей старонцэ.

Не вясйолая старонка
Наша Беларусь,
Людзи: Янка, ды Сымонка,
Птушки: дрозды, гусь.
Поля: горы ды камення,
Потам злита ўсйо,
Сенажаць—адны карэння,
Сивец ды купйо.
Родзе шнур не самавита
Сколькиб працы ўнйос,
Ячмень с сажай, з званцом жыта,
С свирэпкай авйос.
Не багатые и вйоски,
Садоў ў йих не знаць,
Тольки часам дзе бярозки,
Як тычки, стаяць.

А у вйоскахъ люд убоги,
Век беда ў крук гне.
Вечна ў лапцях, гное ноги,
Зрэбья спину тне.
Цйомны, цйомны народ гэты,
Трудна и сказаць,
Абырваны, не адзеты,
Ня ўмее чытаць.
З яго кожны насмяецца,
Назаве дурным...
Бедны люд... так бы здаецпа,
Плакаў разам з йим.
Так нямила, як магилай,
Неяк выдае
Беларусь, мая старонка,
Но люблюж яе.
Як калиб з ей разлучыўся,
Плакаў б с усих сил,
Эй, бо дзе воўк урадзиўся,
Яму куст той мил!
Ў хаце голаду дазнаю,
З'ем хлеба, вады...
Горэй жыци ў чужым краю,
Болей слйоз, нуды.
Там не найдзеш братних сэрцаў,
Там кожны чужым,
Будзеш жыци ў паняверцы,
Ды адзин адным.
Песню родную зацягнеш,
Хто пачуе, хто?
Тамъ любиць свой край прысягнеш
Лепей, як жыццйо.

## С песняу беларускага мужыка.

* * *

Я багач, я магнат!—
  Усимъ рад, усим сыт!—
  Што мне пан, што мне кат!?—
Цэлы свет мне аткрыт!
  Я усйо закляну,
  Усйо силай папру,—
З гор зраблю далину,
  А з далинки гару!
  Затрымаю ваду,
Цйомны бор павалю,
  А як с сошкай пайду,—
  Увесь свет накармлю!
Кажуць, бедны дух мой;—
  Яж таки маладзец!—
  Замахаю касой,—
Трупом ляжэ сивец!
  Кажуць,—крыуджу людзей;—
  Ах, каб их жэ баги!—
Цiж ня с працы маей
  Карыстае други?!
  ...Эй, дуж я да усяго—
На ралли, на лугу!
  Тольки гора свайго
  Я змагц не магу!...
Тольки шнур мой вузки,
  Град на поли пажне,
  И залом ведзьмаки

Заплятуць на мяне;
Тольки ў хатцы маей
Зимой свишчэ вихор,
Хлябок вынесе змей,
Дроў ни дасьць пански бор;
Тольки, як памру я,
Прападаю, як мыш,—
Нима хоць бы гнилля
На труну и на крыж...
Тольки, як памру я,
Ни ўмирае беда,
Хоць з магилки маей
Змые насып вада...

---

* * *

Я мужык беларус,—
Пан сахи и касы;
Цйомны сам, белы вус,
Пядзи дзьве валасы.
Бацькам голад мне быў,
Гадаваў и кармиў;
Беда маткай была,
Праца силу дала.
Хоць пагарду цярплю,
Мушу быць глух и нем,
Хоць свет хлебам кармлю,
Сам мякиначку ем...
С цяжкай працы маей
Карыстаюць усе,
Тольки мне за яе
Нима дзякуй нидзе.

Глянь, высокинький бор,—
Вокам нельга прабиць;—
Загудзеў мой тапор,—
Як блин, поле ляжыць!
Сошку з вышак сцягнуў,
Кабылічку ўшчамиў,
Спину трохи прыгнуў,—
Лес на пахань зрабиў!
Дый засеяў кусок,
Потым з жонкай пажаў.
Пан пшанички тачок,
Люба глянуць, наклаў.
Так вот, людцы, яки
Я мужык беларус:
Нады лбом синяки,
Цйомны сам, белы вус.
Эй, каб цйомны ня быў,
Чытаць ксйонжки умеў,—
Я бы долю здабыў,
Я бы песенки пеў!
Яб патрапиў сказаць,
Што и я—чалавек,
Што и мне гараваць
Надаела ўвесь век!..

* *
*

Шумныя бярозы
  Пабяліў мароз;—
Хацеў бы я плакаць,
  Дый не маю слйоз

Хацеў бы я пеци
  Аб сваей бядзе,
Но мне сэрцэ ные,
  Песенька няйдзе!
Хацеў бы, каб зімаў
  Срогих не было,
Каб зарэло цягам
  Летняе цяпло!
Хацеў бы, каб доля
  У хатцы жыла,
Каб з бурливай рэчкай
  Нядоля сплыла!
Хацеў бы, каб воля
  Гуляла са мной,
Каб сонейко грэла,
  Як грэе вясной!
Но, Божэ мой милы!—
  Доли не видаць,—
Кайданы няволи
  На рукахъ звиняць.
Нима вясны, сонца,
  Светлых дзйон нима,—
Марозам марозиць
  Срогая зима;
Марозам марозиць,
  Снегам адзяе,
На работу гониць,
  Есьци не дае.
...Эх, пайду я ў поле
  Долячки шукаць,
З вострою касою,
  Як на сянажаць!

Ой, пайду я ў поле,
Як бы на вайну,
Шукаючы волю,
Шаблячкай махну!
Ой, пайду я ў цэркаў,
Свечачку куплю,—
Можэ згине горэ,
Якое цярплю!
Можэ ўзойдзе доля
Ясенькай зарой,
Можэ блысне сонцэм
Воля нада мной!

---

## Пажалей мужыка.

Пажалей мужыка-бедака,
Ты, каторы адзеты и сыты
Пажалей,—не атсохне рука,
Бо яму свет да шчасця закрыты.
Як асенняя ноч, як туман,
Цйомны сам, цйомна ў хатцы крывой;
На плечах абарваны лахман,
Ноги скручаны цьвйордай лазой.
Холад, голад и нэндзу цярпиць
За кроў и за працу сваю.
Прыйдзе ў хату,—ў парози стаиць,
За сталом яго мейсцэ—с краю.
И ласкавых йон слоўцаў нидзе
Не пачуе, ня кинуць яму;
Не ўспаможа нихто у бядзе,
Не дасьць хлеба и дроў на зиму.

Так ты, брат, пажалей мужыка,
Каб было яму жыць висялей!
Пажалей,—не атсохне рука,
Пажалей ты яго, пажалей!
Пажалей, бо з яго цямнаты
Кожны рад карыстаць заўсяды;
Пажалей ты яго сираты,—
Бо на свет много прыдзе бяды,
Бо за крыўдў сваю адамсциць.
Свиням будзе крыви ни пабраць!—
Адамсциць, аж земля задрыжыць,
Аж вихры зашумяць, загудзяць!

## Гониш мяне, паничок...

Гониш мяне, паничок,
Не ў пару ис хаты,
Што я бедны мужычок,
Доляй нибагаты.
Гониш с хаты, хаця я
Плациў акуратне,
Хоць за гоньки, дом з гнилля
Драў ты грош астатни.
...Циж на тое табе Бог
Даў багацця боли,
Каб ты бедных душыць мог
Як быкоў у поли?
Гей, с табой жэ мы браты,
Як личыць з Адама,
А ты гониш?!.. кабжэ ты
Цягаўся так сама!

Каб цягаўся рабаком,—
Бо рабак тыж прэце,—
И пазнаў, як бидняком
Кепска жыць на свеце?!

---

## Лапци.

Не праклинайце
Лапцяў липовых,
Не пагарджайце
Лапцяў лазовых.
З йими шануйце
Цяжкую працу,
Лапатник кормиць
Пана с палацу
С часам жэ лапци,
Гаю, ой гаю!
Выпрэ дастатак
З нашага краю;
Людзи абуюць
Боты, камашы,
Прыдзе загуба
На лапци вашы,
Но з йих адзин хоць
Мусе астацца,
Ў церкви зависне,
Дый на падкладцэ.
Вушкам аборай
Скурай пад сподам
Памяткай будзе
Прышлым народам.

Будзе йон сведчиць,
Як у няволи
Кепска живецца
Ў хаци и ў поли,
Як людзей сотни
Лапци цягали,
Каб багачы ўсе
Ў золаце спали.
И пройдуць леты,
Многия веки,
Зменяцца людзи
Можа и рэки,
Лапаць жэ будзе
У церкви висеци,
Люд аб йим будзе
Песянки пеци.

---

## Саха.

Друг мой неадчэпны,
Саха ты крывая,
Хоць кормиш свет цэлы,
Самаж век худая.
Вяровак, жалеза,
А дрэва найболей
Пайшло, каб пажытак
С цябе быў на поли.
Рэзак и нароги,
Й палицу, ўзнимай—роль,
Мне выкаваў ў кузни
З жалеза каваль Сроль.

Паличник, прыполак,
Падсошник, крывуля,
Прыстрояны мною
З дубочка сынули,
На пласе з бярозы,
Ў рагач увязанай
Падвоями туга,
Нароги ўзагнаны.
Рагач же яловы
З мылицай узбитай
К ярму прыкаваны
Прызьмай з дубцоў витай.
У ярмо кульбаки
Капаные ўткнйоны,
А такжэ й занозы
На ўсе дзьве староны.
...Таких та прыладаў
Сабраць сасе трэба
Каб здатнай была йна,
Дабыци нам хлеба.
Як гэта ўсйо ўмелай
Рукой и здаровай
Прывйоў да парадку,
И сошка гатова.
Валоў запрагаиш,
Кульбаки прымерыш,
И валь баразною!
К сабе Бур, к сабе Рыж!
К сабе Бур, к сабе Рыж!
Идзи роўна сошка,
Мыж горэ забудзьма,
Запеймa хоць трошка,

Каб свет аж затросся...
На ўсе каб староны,
Як гром, гул разнйосся...
Тыж, сошка, худая,
Яж пан твой араты,
Век бедны й галодны,
Хоць пан мой багаты.

---

## С песьняў мужыцких.

Нима хлеба, нима соли,
Чужому раби,
Нима шчасьця, нима доли,—
Вот тут и жыви!
Вот зима,—мароз вялики,—
Дровы ў Менск цягни;
Дзетки змйорзли: енки, крыки:—
Вот тут и жыви!
Прайшла зимка, цйопла стала,
Весна на зямли,
А тут корму, хлеба мала,—
Вот тут и жыви!
Весна, лета—час рабочы:
Ары, каси, жни;
Пот крывавы залиў вочы:—
Вот тут и жыви!
Прайшло лета, прыйшла восень,
Падатки няси;
А дзяцей абдзйортых восем!—
Вот тут и жыви!

Вот и будзь шчасливым, браце,
Доли не кляни:
Холад, голад, бяда ў хаце;—
Вот тут и жыви!
Працуй цяжка дни и ночы,
Пагарду цярпи,
Сказаў праўду,—дзяруць вочы;—
Вот тут и жыви!
...У палацы пьюць, гуляюць,
Свецяцца агни;
Мянеж с хаты выганяюць...—
Вот тут и жыви!...

---

## А ты, браце, спи!

Весна. Сонцэ узыходзе,
Свеце па зямли;
Дух збудзиўся у народзе,—
Устали, пашли.
Йосьць и працы, йосьць и поту,—
Спаць нима кали!
Дружна валяць на работу!...
А ты, браце, спи!..
Спи, на слйозы и на горэ
Рукою махай;
Хоць зрабйу бы ты з их морэ,
Но кажы: нехай!
Нехай тые уставаюць
Рана да зары,
Што свабодачку кахаюць!—
А ты, браце, спи!...

Холад, голад, беда ў хаце,—
З нэндзы дух замйор;
Дзеци, жонка шлюць праклянце...
Тыж, як твой тапор!
Дрэмле сошка, и адлогам
Шнур ляжыць даўги;
Ржа касу есьць над парогам...
А ты, браце, спи!
Спи, а можэ хто заблудзе
У твой бедный край,
И цябе з душой разбудзе,
Крыкне: «Уставай»!
Ты на гоман той народни
Паходню бяри
И других будзи с паходней!..
А можэ лепш спи?!...

---

## Ня рвися к багатым.

Ци найдуць пажары, хваробы пад стрэхи,
Ци голад, ци холад, ци смутак у хаци,
Няйдзи да палацу шукаци пацехи!—
Там тольки пачуем шыдэрские смехи!
Ой, раджу, ня рвися к багатым, мой браце!
Ня рвися к багатым ты, доляй убоги,
Ни найдзеш сэрц братних, дзе толька багацце!—
Там будзеш сабой выцераци пароги,—
Табе, як сабацэ, косць кинуць пад ноги...
Так, слухай! ня рвися к багатым, мой браце!
Багаты гуляе, адзеты и сыты,

Багатаму цэлы век свята на свяце!
Тыж вечне працуеш, век потам аблиты,
Но будзь чалавекам, бо тыж не забиты!—
Падшэптаў мамоны ня слухай, мой браце!

---

## Мая хатка.

И старая и крывая
Хатачка мая,—
Уся злеплена, як будка,
З аднаго гнилля.
На страсе, як на балоце,
Зрос зялёны мох;
Каты часам и сабаки
Лазяць па вуглох.
Па дзьве шыбы у ваконцы,
И тыя з лучын,
Адны низинькия дзьверцы,
Ґаначак адзин.
И ў сярэдзине у хатцэ
Бедна, хоць ты плач:—
Непачэсна выглядае,
Бо я ж—не багач.
Яе сцен не склютавана,
Нима ў йой святлиц,
З друзу выбита падлога,
А столь из драниц.
Як увойдзеш,—пры парози
З глины печ стаиць,—
На ўсю хату, як урадник,
С падылба глядзиць;

А пад печкай—маих курак
Хатки-катухи,
Там, як трэба мне ўставаци,
Пяюць пятухи.
Напроць печы з дзьвйох плит жорны
Пры жорнах палок;
Над палком тырчыць пад бэлькай
Коска и брусок.
На куце пад абразами
Стол стаиць, як пан;
Дзьве пры йим таўстые лаўки
И адзин тапчан.
Так вот знайцеж маю хатку,
Родную маю!—
Ў йой век цэлы жыву я,—
Ем, працую, сплю.
Хоць старая, хоць крывая,
З аднаго гнилля,
Не аддам яе никому—
    Бо яна мая!
    Бо яна мая!

---

## Так... не...

    Так-не, так-не,
Загарак гамоне
Так-не, так-не,
Учора и сягоння.
Плакаць ци смеяцца
Так-не, так-не,
Скарэй слйоз даждацца.

Так-не, так-не,
Йосць и ў нас свабода,
Так-не, так-не,
Но не для народа.
Так-не, так-не,
То свабод як хмараў,
Так-так, так-так,
Но тольки для......
Так-не, так-не.
То зимли не мала,
Так-так, так-так,
Ўсим бы досыць стала,
Так-не, так-не.
Шмат зямли пахаhistory,
Так-не, так-не,
Но тольки у пана.
Так-так, так-так.
Дзе гора шукаци,
Так-не, так-не.
У мужыцкай хаци,
Так-так, так-так.
Учора й сягоння
Так-не, так-не,
Загарак гамоне.

---

## Ах! ци доуга...

Ах! ци доўга, братцы, будзем
Под няволей мы стагнаць?
Ах ци доўга свайо шчасьця
Сваю долю праклинаць?

Ци так цягам, як сягоння
Цярпець будзем мы бяду?
Цiж нам горкая нядоля
Написана на раду?
Жыццйо нашае, нас бедных
Бязпрытонных мужыкоў,
Горш за ўсякага стварення,
За сабак и чарвякоў.
Хоць мазольными руками
Ты працуеш кожны дзень,
Хоць у гэтай цяжкай працы
Ссохнеш з голаду, як цень,
Але тває жонка, дзеци
Хлеба просяць у людзей,
Але тваим дзецям, жонцы
Нима чым прыкрыць грудзей.
Ци мароз, ци снег вялики,
Басяком бяжыш на двор,
Бо такая твая доля,
Таки яе прыгавор!
Кали часам ты двузлотку
Зарабиў у пана гдзе,
Так на чынш и на падатки
Яе воласць забярэ.
Хоць нам гэту зямлю-матку
Богъ безплатне даравау̌
И плацыць чыншоў, падатку
За яе нам не казаў,
Но на гэта тут ня помнюць
И як могуць так дзяруць,
И пaследнюю кароўку
За падатки прададуць;

Хто тут винен, разгадайце,
Ци тут Бог, ци чорт праклятый?—
Но, што тольки мне ни байце,
Самиж многа винаваты!...

---

## З маих песняў.

Што нахлыне ў душу,
Што сасню вечаром,
Праз што вочы рашу,—
Усйо выллю пяром.
Усйо выллю и ў свет
Песняй лйотнай пашлю,—
Нихай з вихрам у след
Аблитае зямлю!
Нихай лйотае ўкруг
Над скаванай зямлйой,
Дзе спяць сила и дух,
Дзе брат свой, як ня свой!—
И тых будзе, хто спиць,
Хто цярпиць бяз вины,
Нихай гулка грымиць,
Як званы! пяруны!
Можа гэтаки звон
Даляциць да нябйос,
Атдасць Богу паклон,
Скажэ, скольки ллю слйоз!...

## На польскую ноту.

Свеце месяц, свеце
Звечара да рана,
Арэ мужык поле
Не свайо, а пана!
Не свайо так поле
Мужычок пахае,
Бо свацй зямельки
Так нямнога мае.
Пахае, пахае
И галосиць песьни,
Потам ўвесь пакрыты
И увесь крывавый.
У даль, у шыроку
Гоне думки роем,
Гоне йих, у прышласць
Глядзиць з неспакоем.
Вот надойдзе восень,
Двор багацце зложэ,
Будуць поўны торпы
И сена и збожа.
Вѐсела пан с паняй
Едзець за границу,
Мужыку ж хоць зубы
Злажы на палицу.
Аручы чужое
Ад Юр'я да Спаса,
Сабе й не згаруссциў
К восени запасаў.
Бязхлеббе глухое
На стале засядзе,

Яго з дзяцьми, з жонкай
Пасварэ, пазвадзе,
У карчму загоне
На горэ—забаву,
Кажушок, бравэрку
Даць скажэ ў заставу.
Свисне ў хаце холад,
Свисне папацйомку,
А ў барэ, у панскам
Сасна у сасонку.
И шумяць сасонки
Мужычку над вухам:
«Кинь смутныя думки,
«Кинь и будзь ты зухам.
«Надойдзе галзинка,
«Зямельки прыбудзе,
«Запануе доля
«У бедным, у людзе»
Мужычок сасонник
Чуе и ня чуе,
Арэ й циха плачэ,
Аб доли бялуе.
«Не шуми, бор пански,
«Такъ у дзень и ў ночы,
«Пакуль сонцэ ўзойдзе:
«Раса выесць вочы...
«Раса выесць вочы,
«Пот цела паране,
«Пакуль будзе ў хаце
«Доли панаване»...



Пейце старцы, дзеци,
Добра меци пана,
А лепей ня меци.
Пан за тваю працу
Нибы то й заплаця,
Знай плату с палацу!..
Збярэш з ей багаця!
За гадзин семнаццаць
Трудоў ў дзень нязменна
Выйдзе грошаў двацаць,
Або й таго меняй.
Ой! ды лйогкай служба
Нигдзе не бывае,
Бо служба ня дружба,—
Няволя цяжкая.
Трэба ведаць, знаци
Службы гаравання,
Позна легчы спаци,
А устаць зарання.
На слаце й марозе
Рабици з зиханнем,
Дрыжэци ў парозе
Перад злосным панам.
Зацыркай найболей
Гавець, адгаўляцца,
Як свинни на поле
З блахами валяцца.
Лае пан багаты
А ты цярпець мусиш,

Хоць не виноваты,
Языка прыкусиш.
Горш якой скацины
Спага́няць, знеславяць,
Кляцьбой бяз прычины
Спаткаюць, атправяць.
Ой дана, ой дана!
Пейце, старцы, дзеци,
Добра меци пана,
А лепей ня меци.
Ў службе гора болей,
Як яких выгодаў,
Хто ня любиць воли,
Не нашага роду.

---

## Панич и Марыся.

Свеце месяц, свеце,
Як дзюрка ў сермязе,
Панич за мужычкай
Безустання лазе.
Дваццаць лет Марыси,
Кроў играе ў целе,
С панским сынам ночки
Каратае, дзеле.
«Марыся, Марыся»!
Гаворыць ей маци:
«Кинь на панича так
Вачыма миргаци!»
Яна як ня чуя
Матчыных маралаў:

Спусци маци з вока,
Дзеўка й загуляла,
Пад лясок, за вйоску,
Бы далей ат дому,
Ляциць на спатканне
К паничу ўдалому.
Што з сабой там робяць,
Як час каратаюць?
Гэта хиба толки
Муж и з жонкай знаюць...
Свеце месяц, свеце,
Як лысина ў пана.
Мусиць быць нарэшце
Песня даспевана.
Ат пакус и ўцехаў
Шаг адзин к пакуце,
Быци бабай дзеўцэ...
Часам чорт наплуце...
...Паничу с паненкай,
З багатай Амэляй,
Ужо руки вяжэ
Ксйондз хусткай ў касцеле;
Паничова ж любка,
Марыся ўдалая,
На прылйоты бусла
Слйозна паглядае.
Марыся, Марыся!
Галоўки ня чухай,
Ня слухала маци,
Бабки цяпер слухай.

---

## Весна.

Ой, весна, ой, весна!—
За душу ты милей,
С табой доля ясна,
С табой жыць весялей!
Як з'явилася ты,
Лес иначэй шумиць;
Узлажыўшы листы,
Як пан, думны глядзиць.
Ты зялйонай травой
Скрыла чорну зямлю,
И прызвала сабой
Ўсих к працы, к жыццю.
Гоман птушак-пяюх
Льецца ў вушы твае,
На жалейцы пастух
Галасиста пяе.
Чуць заняўся усход
Неба яснай зарой,
Прэць на поле народ
З бараной и сахой;
Працавитай рукой
Засевае шнурок;—
Ой радзи, Божэ мой,
На пацеху хлябок!
...А там далей глядзи,—
Стаиць дзевачак с пяць,
И з дзявочай грудзи
Громка песни лецяць.
Адным словам, кругом
Весна, право твайо!

С цябе долю бяром
Асладжаем жыццйо.

. . . . . .

Засвяциж ты, весна,
Сваим блескам для нас,
Кали сэрцэ, душа
Спяць у чорненьки час!
Засвяци, кали мы
Абальомся слязми,
Разбудзи нашы сны,
Душу, сэрцэ вазьми!

---

## С песьняў аб вясне.

Свяцило сонцэ, птушки пели,
Была вясна ўжо дзьве нядзели;—
Гнязло клаў бусял-клякотун;
Лясы ўжо пукацца хацели
И песьни весела шумели;
Шукаў ахвяр сваих каршун.
Но вот збирацца стали хмары,
Круки пасели на папары,
Запеў а пóлудни пявун,
И сивер с поўночи павеяў,
Снегами ўсю зямлю абвеяў;
Азябшых птушэк бьець каршун.
И будзе так са дзве нядзели:—
Имша зацихне у касцели,
Замоўкне бусял-клякатун;—
Ах зноў устане из пасцели
Цяпло и свет сабой засцеле,—
Загине з выстралу каршун...



Засвяцило цяпло бляском радосци яснай.
Разбудзило ўвесь свет ад зимоваго сну;—
Эх, напрасна вихор енчэ ў плоце, напрасна:—
Видзим светласць кругом, видзим сонцэ—вясну!
Як з вадзицы свянцонай нячистая сила,
Паляцели растаўшы и снег и мароз;—
Вясна холад змагла, вясна свет ажывила,
З вясной меней на свеце и смутку и слйоз!
Ва ўсих шчасьця на твары вясйолкой гуляе,
Захэнцае да працы, да праўды святой,
Невясйолыя думы и сны разганяе,—
Аж так хочэцца жыць усею душой!
Аж так хочэцца жыць и святую надзею
Калыхаць у душы, думку сниць аб адном:
Што вясна нашэ горэ, як снег и завею,
Пахавае ў рацэ, спале сонца агнйом!...

## Восень.

Эй, восень, восень,
Скуль ты ўзялася?
Песняй неўдалай
Так разлеглася?
Хоць адным шчасце
Восень прыносиш,
Для других жутка
Горам галосиш
Для адных ясна.
Цяпла навеиш,

Линуць багаццем
Не пажалеиш.
Збожэм насыплеш
Поўна аруды,
Будзе, эй будзе
Золата груды.
Дзикаж ты бьешся,
Восень а шыбы
Беднай мужыцкай
Хатки—сялибы.
Хатка старая
Стогне, трасецца,
Туж, туж бязсильна
Рухне, здаецца.
Бедные людцы
Крыюцца ў хатцы,
Страшна йим, страшна,
С холадам знацца.
Дзеци худые
Туляцца к печи:
Босые ноги,
Голые плечы.
Да йих палезла
Нитки сукаци
Ў зрэбнай спадницы
Хворая маци.
Ўсеўся на лаве
Згорблены бацька
И ўвесь аддаўся
Думцэ бедацкай.
Вот нибы восень,
Думае гэтак,

А тут нима, бач,
Хлеба у дзетак.
Цэлая лета
Биўся, не жарты,
Ну и труды ўсе
Што были варты?
Хоць шнур вузеньки
Не дасць шмат хлеба,
Ды чынш вялики
Выбраци трэба.
С поля сабраў вот
Коп пяць безмала,
Як змалаціўжэ
Воласць забрала.
Ну асталося
Ат чыншу нешта,
Бач! магазынник
Вывалак рэшта.
Вот и жыви тут,
И будзь шчасливы,
И будзь багаты
Восеняй з нивы.—
Холад у хаце,
Голад у хаце,
Ба, и скацинцэ
Корму не хваце.
Кепска, эй, кепска!
Жыци ў няволи,
Горш яще жыци,
Як нима доли.
Гэт'кия думки
Мучаць старога,

Бедны гаротны,
Шкода такога.
Каля хацинкиж
Вецер заводзе,
Знай ты, нешчасны,
Стужа надходзе.
Знай ты, нешчасны,
Знай ты, убоги,
Будзеш марозиць
Руки и ноги.
Да места возик
Дроў будзеш везци,
Сивер табою
Будзе ўсйо трэсци.
Будзеш калеци
Ночкай у поли,
Каб здабыць дзеткам
Хлеба, круп, соли.
Лоб счырванее
Плечы спацеюць,
Ноги у лапцях
Акачанеюць,
Будзеш ты сеяць
Слйозы па полю,
Дый праклинаци
Горкую долю,
Й змучаны гэтак
Працай, марозам,
Знайдзеш магилу
Недзе пад возам.

---

## З асенних напеваў

Не гудзи так, восень,
Непагодай дзикай,
Не крываўся, сэрцэ,
З нядоли вяликай.
Цяжэнька марнеци
Ў жыцця паняверцы,
И восень на свеце,
И восень на сэрцы.
Што год вясну бачым,
Гуляючи ў поли,
Ды вясны на сэрцы
Не знаў я николи.
Не даў ты мне, Божэ,
Зазнаць шчасця, волю,—
Забяры ж ты, Божэ,
И маю нядолю.
Моладасць, вясоласць
Не жыли са мною,
Пейцеж хоць вы, песни,
З нешчаснай душою.
Не гудзи так, восень,
Непагодай дзикай,
Не крываўся, сэрцэ,
З нядоли вяликай.

## Зима.

Прыйшла зима халодная,
  Нягодная зима,
Цярпи, зямелька родная,
  Нима жыцця, нима.
Прыцьмилась сонцэ яснае,
  Прыцих шум баравы;
На поли пустка страшная,
  Ни збожа, ни травы.
Снег белы мйортва сцелицца
  Пасцеляй грабавой,
Сапиць, шумиць мяцелица,
  Мяце снег, як мятлой.
Мароз, ай кат бязжаласны,
  Ў лйод рэчки акаваў,
Стральбой сваею пакаснай
  Па сценах биць пачаў.
Стральбой сваей праклятаю
  Ў лйот слабых птушак бье,
Пры хаце и за хатаю
  Спакою не дае.
Хаваюцца ў будоўлины
  Скацина и народ.
У снег зямли абноўлены
  Ня мил для йих паглйод.
Ваўки па сцежках шляюцца
  И ночкаю, и днйом,
И жутка разлегаюцца
  Магильницким выццйом.

О! гора падарожнаму
  Йих стада напаткаць,
Ня жыць неастарожнаму,
  Радни не аглядаць.
И вырвуць вочы ясныя,
  И выхлебаюць кроў,
И пойдуць далей страшные,
  Шукаць ахвяр изноў.
Ой жудасна халодная
  Ўзгулялася зима,
Цярпи, зямелька родная,
  Нима жыцця, нима;
Цярпи, старонка родная,
  Мучення пий да дна,
Мине зима нягодная,
  И ўскрэсне зноў вясна.

---

Да дзеўчатак.

Ой дзевачки, любачки!
Люблю, люблю вас,
Я ў вашихъ, галубачки,
Сетачках увяз.
Ох, мае вы сонейки,
Не знаю с чаго,
Ня милы мне гонейки
Шнурочка майго.
Ня милы мне хатачки
Родниынькай куток,
Ня милы мне матачки,
Слаўца: «мой сынок!»

Ня мила, як воликаў
Рог забушаваў,
Ой, ой, для саколика
Кепски час настаў.
Сэрцэ, бьецэ, корчыцца,
Кроў стала гуляць,
Днйом робиць ня хочыцца,
А ночкаю спаць.
Нападае часцинька
Нейка дзиўна млось,
И так шчасна шчаснинька
Хочыцца чагось.
Вочы неўспадзевачки
Усйо туды бягуць,
Дзе сонечки—дзевачки,
Любачки жывуць.
Ой, ой, не ў цекавую,
Сетку, знаць, забрыў,
Хацяб з добрай славаю
Я яе пазбыу.
Галуб як з галубкаю
Весела варчыць,
Пэўна хлопцу з любкаю
Лепей, як так, жыць.
Бачу, так здаваецца,
Што мне бедаку
Таго штось жадаецца,
Чаго й галубку.
Адну ненаглядачку
За жонку вазьму,
Тады можа радачку
Дам гору свайму.

Труги, труги! трубачки,
Грайце ў добры час,
Дзевачки-галубачки,
Люблю, люблю вас!..

---

## Касцу.

Стук стук, стук, малаток,
Кляпи коску, мужычок,
Кляпи вострэнька сваю,
А я песенку спяю.
Гоп, гоп, гоп!
Я табе спяю.
Быў народ даўней хитрэй,
Не знаў стрэльбы, а вэй, вэй!
Коски шаблями были,
Ваеваць зйми ишли.
Гоп, гоп, гоп!
Ваеваць ишли.
Касу ў шыйцэ адагне,
И насадзиць, и махне;
Смерць таму, хто не зышоў:
Касой рэзали ўрагоў.
Гоп, гоп, гоп!
Рэзали ўрагоў.
И гарматаў быў не страх,
Грамада вялики ґмах:
Адзин ляжз, сто идзе,
А хтож роўны грамадзе?
Гоп, гоп, гоп!
Роўны грамадзе?

Дык и ты касу вастры,
И так скора раз, два, тры!..
Идзи з йою на вайну,
А я йначэй пець пачну.
Гоп, гоп, гоп!
Пець инакш пачну.
На вайну с травой идзи,
Каси гладзенька, глядзи!
Пяруны, грымоты бьюць,
Ты каси, адважны будзь.
Гоп, гоп, гоп!
Ты адважны будзь.
Пяюць птушки пад вакном,
Лепшай доли даўно жджом;
Ну досць коску ўжо кляпаць,
Час з калодки уставаць.
Гоп, гоп, гоп!
Час ужо ўставаць.

---

## А хто там йдзе?

А хто там идзе, а хто там идзе?
У вагромнистай такой грамадзе?
— Беларусы.
А што йны нясуць на худых плечах,
На ў лапцях нагах, на ў крыви руках?
— Сваю крыўду.
А каму нясуць гэту крыўду усю,
А куды нясуць на паказ сваю?
— На свет цэлы.

А хто гэтай йих, не адзин мильйон,
Крыўду несць наўчыў, разбудзиўй их сон?
— Беда, гора.
А чагож, чаго захацелась йим,
Пагарджаным век, йим сляпым, глухим?
— Людзьми звацца.

---

## Любимось, мае суседзи!

Любимось, мае суседзи!
Киньма сварки, звадки,
Жыйма, як родные дзеци
Аднэй нашай матки.
Што ты маеш с свацй звадки,
З дзикай ненависци?
Людзи тольки насмяюцца,
И ўсей той карысци.
Людзи тольки насмяюцца,
Ўраги скарыстаюць,
Над душой чорт запануе,
Ўнуки цябе злаюць.
А пачнийма жыци ў згодзе,
Ў пачцивай, харошай,
Знайдзим долю, знайдзим волю,
На зваротак—грошы.
Ўрагом нашым прыступицца
Трудна тады будзе:
И у Бога ласку маюць
Згадливые людзе.

Дык любимося, суседзи!
Киньма сварки, звадки,
Жыйма, як родные дзеци
Аднэй нашай матки.

---

## Шавец.

Я шавец-маладзец,
Знаю дзела свайо,
Слухаць мусяць мяне
Капылы и скур'йо.
Пры варстаце маим
Дружна праца идзе,
Жонка дратву прадзе,
Вучень сучэ яе.
Я сам «крой» намачыў,
На капыл нацягнуў,
Стуки-стук! малатком,
Шылам, дратвай махнуў,
Палашву прылажыў,
Нагнаў штыфтаў кругом,
Абсац гладка прыбиў,
Дый падкоўку на йом;
Капыл выдзер, и вот
Бот на траме висиць,
Эй, дзивуйся, панок,
Добра будзе насиць.
Эй, дзивуйся, хто жыў,
Яки майстэр я зух,
Бот, камаш, чаравик
Вам састрою удруг.

И багат бы я быў,
(Хоць ня бедзен и так),
Каб лапцей не насиў
Наш мужык, небарак.
Ой былож бы, было
Заработку, трудоў,
Часцей сотку б злавиў,
Угасциў бы дружкоў!
Но йон хиба тады
Стане боты насиць,
Як ня будзе с чаго
Лык на лапци лупиць.

---

## Песня а песнях.

Туды й сюды, там да сям
З думкай злйотаў ўслужнай,
Во й гатова песня вам!
Пейце тольки дружна;
А жылаж каб век вяком,
Спишу на паперы,
Бо, што списана пяром,
Ня выйме й сякера.
Песни, знайце, божы дар,
Шанаваць йих трэба;
Кепски з нас той гаспадар,
Што немае хлеба;
И бяз песен жэ народ
Што йон варт быць можэ?
Йон и цйомны, як той скот,
И бяды ня зможе.

Газэт, ксйонжак мовай ч'ей
Найболей друкуюць,
Паважаюць тых людзей,
Любяць и шануюць.
Так и вы ж, людцы мае,
Ўстаньце, ачуняйце,
Аб чым песенка пяе,
Хутка пераймайце.
Пейце, пейце, а дружней,
Братцы Беларусы,
Барукайцеся смялей,
З няпраўдай, з пакусай.
Близки той дзяньок, кали
Шчасна запануем,
Станем сами мы людзьми,
И край адбудуем.

---

## Плачуць мае песни.

Жутка стогнуць рэки,
Узбураны вясною;
Плачуць мае песни,
Галосяць са мною.
Не стагнице, воды
Паводки бурливай,
Кинце плакаць, песни,
Горка, нешчаслива.
Хто ўстрымаў паводак,
Разгульнае море?
Хто заглушэ песни,
Як их вызве горэ?

Вяликае ж горэ
Часам людзей мучэ,
Наўчэ ненавидзець
И плакаць навучэ.
Як дубок, с карыцы
Пастухом абдзйорты,
Як той салавейка,
У клетку запйорты,
Так я prападаю,
Не маючы доли,
Як дуб усыхаю,
Плачучы ў няволи.
Не дало жыццйо мне
Ни поля, ни хатки,
Па чужых кутох век
Гюблю сил астатки.
Там, гэт, за гарами,
Дзе памчыцца вока,
Свет гучны, вялики
Сцелицца шырока.
Сокалам бы вольнымъ
Паляцеў ў свет гэты,
Но мне крылля ўцяты!..
Доля, дзе ты, дзе ты?
Так бы весялиўся,
Пеў а шчасци песни,
Як той вирабейка
Ў садзе на черэшни.
Гулка стогнуць рэки,
Узбураны вясною;
Плачуць мае песни,
Галосяць са мною.

## Дзяучынка, галубка мая!

Дзяўчынка, галубка мая!
Кинь весяла вочкам ка мне,
Табой зачарованы я
Любуюсь на яве и ў сне.
  Дзяўчынка, галубка, хадзи
  Ка мне, бо цябе я люблю,
  Сагрэю на белай грудзи,
  Уцехай кахання усплю.
Дзяўчынка, галубка, тады
Забудземся свету, людзей,
Забудземся гора, бяды,
Нядоли забудзем сваей.
  Дзяўчынка, галубка, слязой
  Як скропиш павеку сваю,
  Я вытру, пацешу, як свой,
  И песню табе запяю.
Дзяўчынка, галубка, не дам
С цябе жарты строиць жыццю:
Я буду дзялиць папалам
Нядолю и долю тваю.
  Дзяўчынка, галубка, мой друг,
  Саўйом мы цихое гняздко,
  Дзе створым душу адну з двюх,
  И думы, и сэрцэ адно.
Дзяўчынка, галубка, мы так
Па хвалях жыцця паплывйом,

С каханнем за знамя, за знак,
На зайздрасць цярпенню, ўрагом.
Но тольки, галубка мая,
Мяне сираты пажалей,
Люби, як цябе люблю я,
Милуй и цалуй агнисцей.

---

## Да мужычка.

Эй скажы, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?—
Ци ўтапиў ў ручайок,
Ци прапиў, ци праеў?
Ци змарозиў ў мароз?
Ци у лапцях стаптаў?
Ци у Вильню завйоз,—
На хлеб дзецям прадаў?
Ци зарэзаў касой?
Ци сахой заараў?
Ци рыдлйоўкай цяжкой
У зямлю закапаў?
Ци на жордку у плот
Спилавала пила?
Ци загрыз яе пот?
Ци слеза залила:
Мо' з дравами прадаў,
Як у места вазиў,
Може пан не дадаў,
Як за працу плациў?

Ци адбиў яе град,
Як жытцо адбиваў?
Ци табе яе Бог,
Як радзиўся, не даў?
Так скажыж, мужычок,
Дзе ты долю падзеў?
Ци ўтапиў ў ручайок,
Ци прапиў, ци праеў?...

---

*Люли, люли, мужычокъ!*

Шумиць шумненька барок
Жаласливай песняй,
Люли, люли, мужычокъ!
Спи,—ўставаць заўчэсне! *)
Яшчэ поўнач,—пятухи
Першые ня пели;
Твае кони—валахи
Сенца не паели.
Свищаць шыпяць, па лугох
Вужы, скорпияки,
А па стайнях, па хлявох
Лазяць ваўкалаки.
Ведзьмы, совы, кажаны,
Круцяцца, лятаюць,
На сваих бацькоў сыны
Залом заламляюць.
Змей панйос чараўником
Грошы ат скупога;
Ваўки выюць пад лясом,
Аж ляциць трывога.

*) За рано.

Шумиць шумненька барок
Жаласливай песняй;—
Люли, люли мужычокъ!
Спи,—ўставаць заўчэсне!
Яшче вакруг цямната
Над светам пануе,—
Яшчэ миласьць да брата
Людзей не раўнуе...

---

## Перэд вясной.

Рушыўся снег, зашумела вада,
Раскавалися рэки ад лйоду,
Лынула вон зимавая нуда,
Сонцэ уносе цяпло и пагоду;
Шумныя песни играюць лясы,
Павевае вятрок цяплаваты,
Белая нива ат снежнай расы
Убираецца ў чорныя латы,
Трушанкай зморана у цйомных хлевох.
Адзываицца рыкам скацинка:
Коники ў стайнях ирзуць пры жлабох;
Бацян праляцеў над адрынкай.
Будзицца после зимовага сну.
Па хацинках людок працавиты,
Скорынька цягне саху, барану,
Глядзиць шыны на колах, ци збиты.
Высыпець гэты на поля народ
И сеяць будзе свянцонае збожэ...
Добры ураджай спорны умалот
Працавитым людзям пашли, Божэ!

---

## Песня вольнага чалавека.

Напрасна свистами нагаек
Застрашыць хочуць тыраны,
Нагнаўшы чорных соцень шаек,
Акули руки ў кайданы.
Душой, я вольны чалавек,
И гэт'ким буду цэлы век!
Не страшны мне Сыбир, вастроги,
Меч катни шыяй над маей,
Хоць и скуюць мне руки й ноги,
Хоць зрэнки выдзяруць з вачей,
Душой я вольны чалавек,
И гэт'ким буду цэлы век!
Нам есьци хочэцца тым боли,
Чым горэй голад прыгняце,
Тым рвйомся больш мы и да воли,
Чым меней к нам яе идзе.
Душой я вольны чалавек
И гэт'ким буду цэлы вэк!
Напрасно гиканне нясецца
Дзеспатаў подлых над зямлйой,
Што воля ў путы акуецца,
Згняцецца силою, пятлйой.
Душой я вольны чалавек,
И гэт'ким буду цэлы век!
Цiж згасиць сонцэ людзи могуць,
Згасиць, як свечку, яснасць дня?

И воли ж дзеспаты ня змогуць,
Бо воля сонейку раўня.
Душой я вольны чалавек,
И гэт'ким буду цэлы век!

---

## С песняў а битвах.

Играюць сурмы *) баявые,
Вихор разносе ихни звон,—
И песни дзиўныя такия
Ад их лятуць да ўсих старон.
А славе цуднай граюць сурмы,
А шчасци люду усяго;
Завуць змагаць няволи штурмы,
Завуць... ой, многа да чаго!...
Но дарма звоняць сурмы гулка!..
Народ абманяны прицих,
Той спиць, той ходзе бяз притулка,
А жаль и роспач у ваўсих.
Мучыцель тольки рад, снуецца,
Як шакал **) дзики па трупох;—
З ахвяр сваих ваўком смяецца,
З ахвяр, што мруць у ланцугох...
И видзець страшна ў путах силу,
Людзки ўвесь з жалю енк и плач,
Аж хоць кладзися у магилу,
И света гэтага ня бач.

---

*) Трубы.

**) Звер, што сам адваги не мае, и жывицца з улюваў других звярэй.

И ходзиш так, як пагарэлы,
И хочэш к Богу скарги слаць,
Азваццa крыкам на свет цэлы;
«Дзе праўды, воли дзе шукаць!»

19 $\frac{30}{III}$ 06.

---

Песенька для некаторых маладых людзей.

Людзей маладых у нас дужа вучоных
Цяпер надта шмат развялося,
Праўд нейких на свеце шукаюць няснйоных,
Над бедным з йих кожны галося,
Да працы да роўнай, да воли широкай
Ахвочы крычаци, ўзываци,
Их шумные песни нясуцца далйока,
Што ўсе людзи родные брацця.
Як дзиўна, як пекна браждкыць усйо гэта!
Шмат праўдаў, но шмат тут и жартаў.
Пакуль песня ихних хоценьняў ня спета,
Прыгледзицца к йим самим варта,
Адзин з вас, паночки, хитрые галоўки
На дохтора выйдзе и будзе
З нешчасных схварэлых цягнуць паўрублйоўки,
Лячыцца ў яго будуць людзи.
Други будзе з вас брахунцом-адвакатам,
Як трэбя судзицца, парадзе,
А больш каб карысци мець, брата йон з братам
За ни бы то праўду павадзе.
А трэци, што больш усих рваўся к свабодзе,
Напэўна йон будзе йнжынерам,
Як ставиць вастроги, планы навыводзе,
Збагацицца гэт'ким манерам.

Чацвйорты из вас, вольнадумцы, у судзе
  Разсядзецца членам вяльможным,
Галодных, нявольных судзици йон будзе,
  Караци Сыбирам марозным,
Во пяты банкирам, а той зноў суддзйою,
  А той там аптэку заложэ,
И кожны сыт будзе, багацце чужою
  То крыўдай, то працай размножэ.
Так будзе з вас кожны следами йсци дзедаў,
  Незнаючи гора нискольки,
И ўсе вы, и ўсе вы палки дармаедаў
  Сабой увяличыце й тольки.
И скажыце гэта вы некали сами,
  Як вам спухнуць карки ад сала,
Што песенька песняй, чужымиж трудами
  Жыць лйогка, дый чэсць и пахвала.

19 $\frac{24}{VI}$ 06.

---

* * *

Хоць ты, сэрцэ, лопни, трэсни!
Хоць ты выгани, пан, с хаты!
Буду пець я свае песни,
Пакуль возьмюць у салдаты!

Думки, оды пець я буду,
Каб усяки вясялиўся,
Каб для гэтага тут люду
Свет инакшы атчыниўся,
Каб на поли, ци у лузе,
Ци працуя каля дому,
Ци у лесе, ци при плузе
Пеў йон песни па свайому!

Каб николи ня чураўся
Сваей родниныкай йон мовы,
У якой узгадаваўся,
Хоць забыўся дзеля новай!

Дык пець буду табе, людзе,
Каб прачйор свае ты вочы!—
А шмат лепей табе будзе,
Як адружниш дзень ад ночы,
Бо ты ж надта цйомны, браце,
Як тытунь у табакерцэ,—
Хоць ня воўк живеш у хаце,
Хоць ты маеш душу, сэрцэ.

О, я знаю, сэрцэ маеш,
Бо па свинцэ навет плачэш...
А што мовай пагардзаеш,
Дык ты гэтага ня бачыш!..

Гэй! праснися, беларусе;
Ўсе людцы паўставали!
Гей! праснися, беларусе,—
Ўсе праўдачку пазнали!..

---

## С песняў аб мужыцким горы.

Дзе ня выляци з няволи,
Ат пачатку до канчатку
Ўсюды ўбачыш свайо поле,
Ўсюды ўбачыш сваю хатку,

Што цямнотай цябе разе;
Ўсюды ўбачыш чалавека
С слязой вечнай пад павекай,
Вечна ў лапцях и сермязе.
Хоцяж сэрцэ, што за сэрцэ!
Лгання, хцивасци не знае,
Но, жывучы у паняверцэ,
Тольки гора к збыццю мае;
Горам чорным, ой, багата
Надарыла люд наш доля:
Гора ў хаце и за хатай,
Гора ў поли и за полем.
Вецер хаткаю калоця,
И па шчылинах галосиць,
Гаспадар злйог ад калоцьця,
З дзяцьми жонка есци просиць.
Пустка ў свирни и ў вадрынцы,
Свинка хочэ штось здыхаци,
Вые сучка на дзядзинцы,
Памрэ нехта ў гэтай хаце.
А у поли на загонах
Аруць вихры, барануюць,
Хутка, дружна, не натужна
Шнуры вузкие руйнуюць.
Далей чворкай сытай шпарка
Праляцеў пан у карэце,
А за йим пачтовай паркай
Прэ чиноўник на разсвеце.
А на пустцы а паўночы
Ведзьмы, черци пяюць, граюць,
То смяюцца, то рагочуць,
Знахароў, вужоў скликаюць.

И ўсйо гэта, зграя гэта:
Вятры, вихры и сабаки,
Ведзьмы, черци с таго света,
Пан, чыноуник, ваўкалаки,
Ўсе на выперадки пруцца,
Гикам, смехам чертаўскими
Залилися и нясуцца,
Аж зямля стогне пад йими.
А за йими, нибы хмара
Йдзе мужыцкае ўслед гора,
Так сягоння, як учора.
И мужык—пан у старонцы—
Гора гэта вечна бачэ,
Бачэ, што толки ў карчомцы,
И ў магиле йон не плачэ.

19 $\frac{10}{VIII}$ 06.

---

## Нуда.

Будзь ты дуж, як вада,
Як жалеза цвярды,—
Кали найдзе нуда,
Ты ня зможэш нуды!
Як благая напасьць,
Атуманиць сабой,
И спакою не дасьць,
Аж заныеш душой!
Аж заплачэш душой!
Жаль ця здойме таки!
И ня прыдзе спакой
Да магильнай даски!

На свет будзеш глядзець
Ашалелым ваўком;
Песни ўздумаеш пець,
Адазвешся выццйом.
Стане пеклам жыццйо,
Людзи—горш за звярэй;
Думаць будзеш усйо,
Як памерци скарэй.
Эй, дзяньки каратаць
Трудна з йою, бяда!—
Не дасьць ночкаю спаць
Усйо гэта нуда!
Змучэ, хоць ты ваэьми
И ня пи, и ня еш;
Вочы зойдуць слязми,
И свой лйос праклянеш!
Адно шчасця людзей,
Тольки трыумф тады,—
Кали працай сваей
Зваляць камень нуды;—
Кали мысль адна йих
У жыщци павядзе:
Працаваць за траих,
Каб не даццa нудзе!

19 $\frac{10}{III}$ 06.

---

## Песня жнеяў.

Пагнуўшы ў крук худые спины,
Сярпом махаючы крывым,
Мы жонки, ўдовы и дзяўчыны,
При доўгай постаци стайим.
И дружна жнйом,
И паддайом
Адна адной
Ахвоты больш,
И песню жаласна пяйом.
Асобна кожную загонам
Нас надзялиў пан-дабрадзей,
А над усими злы аконам
Стаиць, ганяе жаць бардзей.
И мы ўсйо жнйом (як раней)
Агниста сонцэ припекае,
Ў губах язык засох, як косць,
Пот горки вочи заливае,
Змачыў кашулю ўсю як йосць.
А мы ўсйо жнйом (як раней).
Серп прыбаўляе ранаў косых,
Павеку рэжуць асцюки,
Як пьяўки смокчуць кроў з ног босых,
Аржыння вострые суки.
Но мы ўсйо жнйом (як раней).
Мы жнйом, растуць снапы и мэтли,
Мы жнйом людзям, гэй, гэй, пабач,
Гаротным нам хоць лезь у петли,
Працуй на поли—дома плач,
Но ўсйож мы жнйом (як раней).

Гей, жнйомце, бабки и дзяучынки,
Гаруйма, горэ не напасць;
Пан справиць гучныя дажынки,
За пот, кроў, слйозы водки дасць,
Мы будзем пиць,
Як горэ п'йом
Паноў хвалиць,
И дружна йим
Скрозь слйозы песню прапяйом.

19 $\frac{2}{IX}$ 06.

---

## Да сваих думак.

Думки, думки весялушки!
Скуль вы узялися,
Што у мыслях, нибы птушки,
Песняй азвалися?
Ци навеяў вецер вольны,
Што на горах скачэ,
Што у плоце, як бяздольны,
Па сиротках плачэ?
Ци бурливыя паводки
З вадой вас прыгнали,
Што вясною час каротки
Зямельку змывали,
Затапляли, заливали
Далины и горы,
Аж сябе ў моры схавали,
У глыбоким моры?..

Думки, думки весялушки,
Скуль вы узялися,
Што у сэрцы, нибы птушки,
Песняй азвалися?
Ци зрадзиў вас дух знанҡаны
У хатцы дзюравай
На зямельцы акаванай,
Бяздольнай, бязправай?
Ци ў калысцы у липовай
Са мной узрасли вы,
Як дзицйои вучыўся мовы,
Вясйолы, шчасливы?
Свет здаваўся истным раем,
Людзи без аблуды,
Не калоли у няволи
Жыцявые груды!
Думки, думки весялушки!
Скуль вы узялися,
Што у сэрцы, нибы птушки,
Песняй азвалися?
Ци навеяў вихар с поля
Як листки з бярозы?
Ци зрадзила вас няволя?
Ци гора, ци слйозы?
Ци прыгожая дзяўчынка
Ў вуха нашэптала,
Што вачыма, як лучынка,
Миленька миргала?
И бажылася кахаци,
Век не пакидаци,
Разам гора гараваци,
А потым... ну, што там!..

Думки, думки весялушки!
Скуль вы узялися,
Што у сэрцы, нибы птушки,
Песняй аввалися?
Ци вас выараў сахою
На шнуры вузеньким?
Ци вас выкасиў касою
На сиўцы сивеньким?
Ци вас выкапали людзи,
Як праўду хавали...
Ачарнили хвальшам грудзи
И зэмстай шакаляй *).
Видмы смерци и разлуки
На скаваных сеюць,
Ў крыви братняй мочуць руки,
На трупах шалеюць!..
Думки, думки весялушки!
Скуль вы узялися,
Што у сэрцы, нибы птушки,
Песняй аввалися?..
Гэй же, думки, громка пейце,
Пакуль сэрца бьецца!
Громка пейце, не жалейце,
Што там хто смяецца!
Прыдзе хвиля, и вас мила
Нехта прывитае.
Можэ хоць дзяучынка тая
Што мяне любила!

---

*) Шакал—звер да нашай лисицы падобны, хитры дый баязливы да слабейшаго йон зух, ат сильнаго уцякае.

Прыдзе хвиля,—поймуць людзи,
Дзе праўда зарэе...
Пейце ж, думки, шчасця будзе,
Ночка разаднее!

---

## Думки.

З неспакоем думки роем
Верцяцца ў душы,
На свет божы, свет прыгожы
Рвешся ўвесь з глушы.
За высь гораў, за цьмы бораў
Там за рэчки шум
Мкнуў бы птушкай весялушкай
За палйоткай дум.
Сэрцэ бьецца, к жыццю рвецца,
К нейким светлым снам,
Гэй, ты, гора, скораж, скора,
Цябе ў брак я здам?.
К доли, к воли, гэт, ца поли,
Як леў пабягу;
Спаци, ждаци ў курнай хаци
Ўжо больш не магу.
Свет вялики, песни крыки
Мкнуць з усих старон,
Звониць штосци, к славе ў госци,
Кличэ гэты звон.
Идуць людзи—ў крыви грудзи,
Паходни ў руках,
Нима ночаў, жарам вочы
Зияюць, аж страх!

Са сну будзяць, душу лудзяць
Надзеай старой,
Разбуджаюць, узываюць:
Гэй на нейки бой!
Думки ходзюць, чымсци зводзюць,
Тым, што долю дасьць:
Згине горэ й слйозаў морэ!
Ня вечна напасць!
Пакирую думки ў тую
Старонку свае,
Скуль с прасветам мне прыветам
Праўда запяе.
Далей, выжэй памкну гыжа:
Ўжо праложан след,
Трудна, маци, ў курнай хаци,
Палячу на свет.

---

### С пралйотныхъ дум.

Дзе бы праўда жыла, дзе бы доля цвила,
Ни стагналиб дзе людзи над горам-бядой,
Дзе бы слйоз не цякло, дзе бы кроў не плыла,
Паляцеў бы туды, паляцеў бы з душой.
И запеў бы там песню, эй, думу сваю,
Нибы той салавейка у цйомным бары,
Каб той свет мяне чуў, як шчаслива пяю,
Слйоз ня ллю, як цяпер, ад зары да зары.
Но ня мне сници, пець а шчасливых крайох,
Кругом бачу и слйозы, и кроў, и бяду;
Неспакойнай душой надарыў мяне Бог,
И с такой у магилу напэўна зыйду.

Пакуль воли няўбачу над роднай зямлйой,
Циж бы радасцяй песни азвацца магли,
И пакуль буду бачыць, як плачэ брат мой,
Мне праўдзивага шчасця не знаць на зямли.
Шумиць вецер, листы абивае з бяроз,
Абламляе гальйо, не цярпиць и гудзиць.
Хто смяецца са слйоз, сам прычынай тых слйоз,
Хто няўмее будзиць, сам за то крэпка спиць,
Прэч з дароги, мужык, абарванец лихи!
Што? паноў не пазнаў из двара ты сваих?
Ну, хамула, на бок, а што вышаў сухи...
Чорт ляциць и крычыць и нивэчэ ўсйо, ўсих.

---

С пралйотных думак.

Па жыцйовай, па цярнистай
Пуцявине йду,
А за мной мая нядоля
Гоне ў след бяду.
Бяда чорная такая
Сунецца, бяжыць,
Слйозы, жаласць насылае,
Аж трудненька жыць.
Смутна, смутна цурком слйозы
Ллюцца с пад павек,
Хоць бы йшла ўжо смерць—магила,
Чымся так жыць век.
Эй пайду я ў бор шумячы,
Песню запяю,
Перад лесам выллю скаргу
Горкую сваю,

Дзе ты воля, дзе ты доля?
Ни знаць, ни чуваць,
Глуха стогнуц дубы хвойки,
Галины трашчаць.
Каб, здаецца, абняў йолку,
Сагрэў бы сабой,
А з людзьми так неяк зимна,
Жутка, Божэ мой!
Акавала сонцэ праўды
Непраўды зима,
И як жыци, што чыници?
Разгадки нима.
Тольки чорная нядоля
Сунецца, плыве,
И смяецца, што з ей вальчаць,
А яна жыве.

---

## З маих думак.

Я ня сокол зоркавоки,
Не арол адважны,
Што так думна за аблоки
Ўзносицца з йих кажны.
Нават я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я тольки вирабейка,
Ўзрошчаны над Гайнай.
Як йов, край шаную родны,
Не лячу ў чужые,
И з зимой вальчу халоднай,
Хоць то й сэрцэ ные,

Як йон, сеўбы дзе на плоце
И песни чырыкаў,
Людцаў родных бы ахвоциў,
К лепшай славе б кликаў.
Як йон, сад я хатку, поле
Люблю, хоць не маю,
З вирабейкавай и доля
Мая роўна, знаю.
Вирабейку стужа змора,
Альба ястрэб хваце,
Мяне ж зломе майо гора,
Ў зямлю ўкине спаци.
Над магилаю крыж с хаткай
Паставяць мне людзи,
Вирабейкава ж дзецятка
Нада мной пець будзе.
И мне будзе смуткаў меняй,
Лежучы ў заперци,
За жыццят—слйозы, цярпеня,
А песни па смерци.

---

## Канюх *).

(Падане).

Йосьць, братцы мае вы, у нашым народзе
З даўнейшага часу падане адно;—
З дзядоў на унукаў идзе, пераходзе,
И мне также сама дайшлося яно.

---

*) *Канюх,* або *кáня* (книгоўка)—гэта птушка У сухую пагоду, як дожджу доўга не бываець, яна, лйотая высока, крычыць жаласлива, як маленьки рабйонак, и людзи тады кажуць, што гэта кáня пиць просиць, кáня дожджу просиць.

Навуки ў падани тым многа, ой! многа
Для грэшных, трухливых и цёмных людзей».
Ў йим бачыш, што кара спаткае ат Бога,
Хто праўды ня хочэ пазнаци бардзей.

Гадоў таму многа,—бяз лику, бяз меры,—
За часу, кали Бог тварыў гэты свет,
Были ужо ствóрэны людзи, и зверы,
И птушки-пяюхи усяких прымет—

И людзи ўжо мели усё, што хацели:
Далины и горы, и поле, и луг;
Лясы ўжо шумели, дзярны зелянели,
И пекна и мила было ўсё укруг.

Аднэй тольки рэчи яшчэ бракавала:
Ни капли вады на зямли не было;
Праз гэта было плачу, енку не мала,—
Усё пиць хацела, што тольки жыло.

Ўсе стали збирацца и радзицца з гора,
Як гэтай пазбыцца вяликай бяды...—
Аж сам Бог урэшце усим так гаворэ:
«Я вас навучу, як дастаци вады.

«Ваду вы мець будзеце цягам, навеки;
«Збярыцеся разам, хто жыў на зямли,
«И ямы капайце на студни и рэки,
«Но тольки к рабоце усе каб ишли!

«И помнице: кожны, хто з вас астанецца,
«Ня выйдзе у гэтай супольнай бядзе,

«Пiць, пiць будзе вечна такому хацецца,
«Але йон ня знайдзе вадзiцы нидзе!»

Вот рвуцца да працы агромнистай людзи,
И зверы, и птушки, и кожны жучок;
И цяжка працуюць, зрываючы грудзи,
Капаюць, цягаюць жвировы пясок.

Ну! будзе йим добра: дастануць вадзiцы,
Больш сохнуць ня будуць, як сохнуць цяпер;
Вот зробяць азйоры, и рэки, крыницы,
И студни, а к студням изруб и асвер!

Но ўсе хоць так шчыра паслухали Бога,
И стали да працы усе, як адзин,
Канюх адзин тольки ня робиць ничога,
Йон гульма гуляець, як пан-гаспадзин...

Увидзеў Бог гэта з высокага неба,
Пазваў канюха и гаворэ тады:
«Няўжож пiць николи табе не патрэба?
«Чаму не працуешь, дастаць каб вады?» —

«Я пiць не хачу!» так канюх кажэ Богу;
«А як захачу, дык напьюся расы»;
И тут йон пусциўся назад у дарогу...
Аж енкнуў вихор, зашумели лясы,

А з неба грамливы ў след голас раздаўся:
«На веки жыць будзеш ты тольки расой!
«И хоць бы ты млеў и с жыццйом разставаўся, —
«Пiць, пiць» будзеш кликаць ты летняй парой!»

Вот скончана праца, нашлися крыницы,
И морэ бушуе, и рэчка бяжыць;—
Хто скольки захочэ, напьецца вадзицы
Адзин канюх просиць летаючы, пиць...

Жалобна йон просиць так, як бы клянецца,
Як молицца Богу, каб грэх даравадь,—
И тольки часами расицы напьецца,
А самай жарой йон змушон усыхаць...

Крычиць йон так, як бы людзям для навуки,
Што Боская кара ўсих мусиць спаткаць
Тых, хто, баючыся цярпення и муки,
Ня хочэць па праўдзе для ўсих працаваць.

Так знайце жэ, братцы, хто к працэ вяликай
З вас рук прылажыць не захочэ сваих,—
Такому Бог скажэ: «Пиць!» цэлы век кликай,
«И будзь праклинаны ат братаў тваих!»

---

## Над магилами.

Спице, загнаные,
Ат сонца скрытые,
Спице, бяздольные,
Горам забитые!
Як вам зямелькаю,
На вочы кинули,
Из людзкай памяци
Марне загинули.
Над касцьми вашыми,
Панад курганами—
Слйозы узносяцца
Мглою—туманами.

Крыжы яловые
На бок скрывилися;
Наспы пасмертныя
Вадой размылися;

Два—тры з ĭих свецяцца
Кветкай жычливаю,
Рэшта скрываецца
Лазой, крапиваю.

Самиж вы зданнями,
Бледными, синими
Летам ўсходзице
Панад магилами.

Начницы чорные
Ночкай злетаюцца,
И совы шэрые
Перэкликаюцца.

Ваўки збираюцца
Парой зимоваю
И пяюць, вьючы,
Песнь паграбовую...

Спице, загнаные,
Ат сонца скрытые,
Спице, бяздольные,
Горам забитые!..

## С прасоньня.

...Не! досиць, досиць! трудна далей
Цярпець, цихие слйозы лиць!
Ничога мне, ой не, не дали,
А ўзяли ўсйо, чым мог бы жыць.
Нявольник, кланяцца век трэба
Людзям; век с потам кроў цячэ,
Нима патоли и ат неба:
То студзе, то спекай пячэ.
Пярун у хатку бье крывую,
Пасевы нишчэ суш и град,
Авечку воўк задраў старую,
Скрыпиць не мазан панарад,
Худзее жонка ў слйозах, працы,
Трасе дзюравым каптаном.
Гэй ты, што песцишся ў палацы,
Мей ж литасць над маим дзицйом!
Я сам...—мне ноги гное лапаць,
Аборы ўелись да крыви.
О кроў! калиж ты кинеш капаць?
О доля, раны зажыви!
Грызецца згрэбная кашуля,
С сермяжкай трудна пагадзиць,
Зимой ат стужы не атуля,
А ў летку го́рача хадзиць.
Аблазяць, спрэўшые ат поту
Пад шапкай дрэннай, валасы,
Нажыў удушшэ и ламоту
Ат тапара, сахи й касы.
На ўгры пабиў мазоль мне руки,
Век целу пыл за акрыццйо.

О, скольки гора, скольки муки
Нясеш, паганае жыццйо!
Нихто й пацех мне не гаворэ
За долю горкую маю,
Нясецца тольки эха з бору,
Як песню скрозь слйозы спяю.
Гэй, растлумач, атродзьдзе ўражэ,
Трутни, зладзеи пчольных прац,
Чаму, дзе труд крывавы ляжэ,
Цвяце загон, стаиць палац?
Чаму я сею, а другие
З сяўбы маей збираюць плйон?
...О, досиць, досиць, сэрцэ ные,
Грымиць пагудки новай звон.
Чакаў и днйом, чакаў и ночай
И ўжо абрыдала чакаць,
Ўстаю, иду, куды йдуць вочы,
За крыўды плату атшукаць.

19 $\frac{10}{IX}$ 06.

---

## Як пайду я пайду...

Як пайду я, пайду па загонах
Па мазольным аратых сляду,
Па лугох и па борах зялйоных,
И па сйолах убогих пайду.
На жалейцэ сваей, на гудливай
Там я песни пачну распеваць.
Прыслухайся, шчаслиў, нешчасливы,
Думки лепшы хачу вызываць.
Я дляниваў пабудку зайграю,

Каб радзила спарней дабрыну,
Каб—баронку стаўляй к жытцу с краю—
И ўтрымала жытцо барану.
Я грудзями прыльну к сенажаццэ,
Малиць стану даваць больш сенца,
Ў кветках вечна каб ей красавацца,
Кветкиб шчасцям цвяли для касца.
Кнейи гукну, каб гордай, скупою
Не была, дроў давала людзям,
Памагла ваеваць йим с зимою;
Шумоў бору падслухаю сам.
А прыду к свайму ў вйосачку люду,
Пачну с хатки да хатки хадзиць,
Жалець сэрца, душы там ня буду,
Буду пець, буду йграць и будзиць.

---

## Ой, чаму на хаты гэтые.

Ой, чаму на хаты гэтые
Сышла восень с халадами,
Кали людцы не сагрэтые
Трасуцца пад лахманами?!
Ой, нашто, нашто нишчаснага
Парадзила мяне мацi,
Кали доли, шчасця яснага
Не магла с жыццйом мне даци?!
Цяжка з вихрам жыцця бицися,
Горш як з бурай хвойцэ ў поли,
Но цяжэй жыцця пазбыцися,
А яшчэ цяжэй — нядоли!

19 $\frac{26}{VII}$ 06.

## Чагоб я хацеў.

Мне ня трэба багатых другоў:
Даўно знаю пахлебства я йих,
Йих малитвы да ўсяких багоў,
И с пагардай пагляд на других!
Не хачу з йими быць за сталом,
На свайо панижэнне глядзець,
Як, минаючи чаркай з вином,
Ат парогу накажуць сядзець!..
Не хачу я дзявочай красы,
И пяшчот йихних белых грудзей:
Рэжэ сэрцэ мне горэй касы
Зменнасць, хитрасць агнистых вачэй!
Не магу я цярпець, пaглядаць,
Як йих сталасць зникае, як дым;
Тут душу табе рада атдаць,
Тут других абнимае патым!
Не хачу я гуляць, дзе народ
Тольки нэндзу цярпиць на вяку,
Дзе сиротка стаиць ля варот,
Есци просе, падняўши руку.
Не хачу весялицца, гуляць,
Дзе бяда, слйозы, скарґи вакруг,
Дзе другие ў няволи сидзяць,
Дзе замйорли и сила и дух!...
Гэй, сказаць жэ, чаго я хачу?
За што сэрцэ бы навэт атдаў?
С чаго твар я слезами мачу?
Циж з вас гэта кали хто згадаў?

Дык вот чуйце, чагоб я хацеў,
Аб чым думачки тольки мае:
Каб мой люд маю песню запеў
И пазнаў, аб чым песня пяе!!!

1905.

---

## На добры стары лад.

Забудзься и працуй!
Ни сэрца, ни душы,
Ни дум сваих ня чуй;
Ци ў ґвары, ци ў глушы,
Забудзься и працуй!
Хоць хаткаю тваей
Трасуць што дзень вятры,
И песняю сваей
Разносяць стон стары
Над хаткаю тваей,
Забудзься и працуй!
Нуды пажар тушы,
На вир жыцця ня злуй,
Ци ў ґвары, ци ў глушы,
Забудзься и працуй!
Хоць ночка цемнатой
Заслала сцежки ўсе,
Праходзиш ты кудой
Па слёоз сваих расе;
Ня вечан цемнатой,
Забудзься и працуй!
Прашкоды ўсе крышы,

На долю не крыўдуй
Ци ў ґвары, ци ў глушы,
Забудзься и працуй!
Хоць горэ ў след бяжыць,
А каменем—гарой
На сэрцы жаль ляжыць,
Хоць смутна, Божэ мой,
Забудзься и працуй!
Ни сэрца, ни душы
Ни дум сваих ня чуй;
Ци ў ґвары, ци ў глушы
Забудзься и працуй!

---

## Нябошчык.

Надаела чалавеку
Жыци, пажываци;
Пекаў свайо горэ, пекаў,
Дый, трэба ўмираци.
Хоць хацеў бы можэ трошка
Жиць, павесялицца,
Смерць благая кладзе ў ложка,
Кажэ не будзицца.
И памйор. Цяпер шчасливы,
Не баицца лиха...
Эй, глядзице: дзивы, дзивы!
Спиць спакойна, циха...
Но гной трэба вязци с хаты,
Каб черви ня ели;
Скидай, браце, свае шаты,
Вады ўжо нагрэли.

Змыли троху вочы, спину,
Што болей на разе,
Палажыли ў дамавину,
Як пана, як князя.
З дамавинай на калйосы
Нясуць, як святога;
Разявякаў, салапякаў
Сабралося многа.
Кожны стогне, ўздыхае,
Галосе, заводзе,
Нибы плачэ, сэрце мае....
Годзе лгаци, годзе!
Ну, кабыла, ну, худая,
Паволи цягнися!
Ты, истота нежывая,
Ляжы, не звалися!
Вот и цэркаў, поп с крапидлам
Чэкае на ўзятку,
Пакурыў труну кадзидлам
Дзяк запеў ў вастатку.
И на мо̀гилки панéсли
Труну, як павалу;
Ой, ой, каб жэ не растрэсли!
Нясице памалу!
Званы гучна загудзели
Галасистай песняй;
Ой, скольки бы вы ня пели,
Нябошчык ня ўскрэсне!
Ну, грабару, капай яму,
Локцяў тры без мала;
Пахаваем тут мы краму,
Што труд прадавала.

Ужо выкапаў?—ну, ладна!
Труп спускаць пачали,
И спусцили так парадна;
Зямлйой закапали.
Насып вылажыли дзйорнам,
А крыж из каменяў.
Вот и меней непакорным,
Адным меней, меней.
Праплывае многа летак,
Нима чалавека....
И пляцецца у нас гэтак
Ат века да века.
Як смерць возьме, усйо гине:
Нядоля, няволя! —
Спакой тольки ў дамавине,
Ў дамавине доля!

19 $\frac{18}{III}$ 06.

---

Шчасце.

Мы гонимся часта за марай улуднай,
Каторая шчасцем завецца,
Но трудна яе нам злавици, ой трудна,
Хоць близка, тuж близка здаецца....
Адным мара-шчасце завецца багацце,
Што свецицца грошэй машонкай;
Другими—парадак и згода у хапе,
Иными—харошая жонка.
Той рвецца да славы шырокай, вяликай,
Той—жыци незнатна, як дзеци;
Той—песняй азвацца ня свойскай и дзикай,
Той—родную думку запеци...

И роим у мыслях так цэлыми днями,
Но шчасця ня роицца ройна...
А слёзы других, што лиюцца прад нами,
Циж могуць даць спаць нам спакойна?..

19 $\frac{18}{VIII}$ 06.

---

## Адзин.

Ци йду я вясёлай дзянинай
С касой, ци с сахой за сяло,
Й небачусь с пахилай хацинай,
Пакуль чую сонца цяпло,
И ў поли, працуючы ў поце,
Бядую над горам свайим,
Дарэмна шукаю, жду, хто бы
Пацешыў ў цярпенни цяжким.
Душа мне и шэпчэ и плачэ,
«Адзин ты, адзин, небарачэ!..»
Ци с поля гадзинкаю шэрай
Вярнуся, сяджу за сталом,
Краплюся пациху вячэрай,
Лучынка миргаець агнём,
А з'ешы адно, паглядаю,
Папросиць хто, больш падлие.
Но дарма!.. пры лаве, пры печы
Ўсё твары снуюць не свае.
Душа мне и шэпчэ и плачэ:
Адзин ты, адзин, небарачэ!
Ци ночкай панурай к падушцэ
Ўвесь змучан, прыльну атдыхнуць,
А сэрцэ, як лисцик на грушцэ,

Трасецца, калышецца грудзь.
И жду так, вот прыйдзе хтось любы,
Абниме, атулиць сабой,
Но дарма!.. «Никога, никога»
Хтось кажэ: «нима тут с табой!»
Душа мне и шэпче и плачэ:
Адзин ты, адзин, небарачэ!
Ци я беларусаву хату
Иду прывитаць на зарэ,
И руки там выцягну к брату
И вочками кину к сястрэ,
Ци, ўсеўшыся циха на прызбе,
Зайграю там песню сваю,
Напрасна прывету чакаю,
Напрасна витаю, пяю,
Душа мне и шэпчэ и плачэ:
«Адзин ты, адзин, небарачэ!»

19 $\frac{28}{V}$ 06.

---

## Над сваей айчызнай.

Божэ! гэт'ки свет тут
Моц стварыла твая!
Дзеж мой дом, дзеж мой люд?
Дзе айчызна мая?
    Дзе той час, у яком
    Тут кипела жиццйо?
    Свой народ быў кругом
    И любиў свайо ўсйо,
    Сваю песню ў лад свой
    Ня стыдзиўся запець!

И сярмяжки сивой
Ня стыдзиўся надзець.
Весялиўся народ,
Аж грымела сяло!
Ва ўсих светлы паглйод,
Ва ўсих шчасця цвяло
А цяпер, а цяпер
Не видаць ясных зор,
Хоць сабе сам ня вер,
Зникла ўсйо, як вихор!
Зникла ўсйо, як имгла,
Нима славы таей;
Злая доля змагла
И мой край, и людзей!
Адны ў шар курганы,
Светки битваў, стаяць;
Косци к йим ґруґаны
Прылетаюць збирапь!
Прашмыгаюць вужы,
Канюх молицца «пиць».
Воўк прабег па мяжы,
Далей спиць, усйо, спиць!..
Божэ! гэт'ки свет тут,
Моц стварыла твая!
Дзеж мой дом, дзеж мой люд?
Дзе айчызна мая?

19 $\frac{28}{VIII}$ 06.

---

## Вольха.

Шумиць маркотна вольха
Над рэчкаю бурливай,
Аброслая на доле
Бадылями, крапивай.
Над ей синеець неба
И сеець неприветы:
То студзяць яе зимы,
То паляць яе леты.
Абломивае вецер
Галины без сумлення,
Падточывае рэчка
Жылястые карэння.
Пацешыцца, як птушки
Пяюць вясной агнисця;
Жалобу жаляў носиць,
Як раздзяецца з лисцяў.
Дни многие праходзяць,
Найбольш нипагадлива,
Шумиць маркотна вольха
Над рэчкаю бурливай.

19$\frac{14}{VIII}$06.

---

## Я бачыў...

Я бачыў, як вецер па полю гуляў,
Зямлю узрываў и бярозкай хиляў,
Пяском занасиў сенажатки, лагчынки,
Ламаў на бярозцэ жывыя галинки.
Я бачыў, як ястрэб галубку забиў,

И выклеваў сэрцэ, и цёплу кроў пиў;
Вихор яе пер'я и косци развеяў;
Галуб варкаваў, галасиў без надзеи.
Я бачыў дзяўчынку нешчасну адну,
Як бегла да рэчки, нырнула ў ваду;
Нагнаў вецер хвали и след той загладзиў;
На беразе вольхи шумели а здрадзе.
Я бачыў ўсё гэта й душою цярпеў,
Застыў смех на губах и песни ня пеў,
Заплакаў, залиўся маркотнай слязинкай
Адзин над бярозкай, галубкай, дзяўчынкай.

$19\frac{15}{VIII}06$.

---

## Липа.

Высока, разлажыста
Разселася при хаце
Стара—старая липа,
Паважная, як сваццяю
Сто лет ужо старусе,
А можэ навэт болей,
Ат вихраў, а ат бураў
Ня мела йна патоли.
Сто лет—кавалак часу,
Ня сто дней, ня сто тыдняў,
Яких зайшло праменаў,
Збадаци ўсё абрыдне.
Нешчасцяў, кляцьбы, плачу,
Было што, Божэ милы,
Нябошчыкаў бяз лику
Сыходзила ў магилу.

А липа ани дбае,
Жыве, стаиць пры хаце
Высока, разлажыста
С павагай, нибы сваццця.

$19\frac{15}{VIII}06.$



## Думки.

(С украинскага Шэвчэнки).

На штож чорные мне брови
  И карые вочы,
На штож леты маладые,
  На штож твар дзявочы?
Леты мае маладые
  Марне прападаюць,
Вочы плачуць, чорны брови
  Ат ветру линяюць.
Сэрцэ вяне, нудзе светам,
  Як птушка бяз воли;
На штож мне, краса мая, ты,
  Кали нима доли?
Цяжка, цяжка сиратою
  На свеце мне жыци:
Свае людзи—як чужые,
  Не с ким гаварыци!
Нима каму распытаци,
  Чаго плачуць вочы!
Нима каму расказаци,
  Чаго сэрцэ хочэ!
Чаго сэрцэ, як галубка,
  Дзень и ноч варкуе,—
Нихто яго ня пытае,
  Не знае, ня чуе!

Людзи ж мяне ня спытаюць,
Дый на штож пытаци?—
Нехай плачэ сирацина,
Нехай леты траце!
Плач же, сэрцэ, плачце, вочы,
Пакуль не заснули,
Плачце, моцна галасице,
Каб ветры пачули!
Занясли каб ветры буйны
За синее мора,
Маю цяжкую нядолю,
Маю бяду—гора!..

* * *

За думаю дума роем вылятае,
Тая цисне сэрцэ, тая раздзирае,
А трэцяя циха, цихусенька плачэ,
Аж там на дне сэрца, дзе нихто ня ўбачэ.
Камуж тут йих пакажу я?
И хто тую мову
Прывитае, угадае
Вяликае слова?
Глухим кожны тут радзиўся,
Кожны з гора тужэ:
Ты смяешся, а я плачу,
Вялики мой дружэ.
А што прыдзе с таго плачу?
Боль галоўки, браце...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Што там!.. будзем лепш смяяцца,
Хоць голад у хаце!..

## П а р а́.

(С польскага М. Конопницкай).

Раз-други сохи-крывули
Зямлю вашу падвярнули.
А па ўсякай скибе чорнай
Жджецца севу, жджецца зйорнаў.
Гэй, сяўцы, паспешны час!
А чамуж ня видна вас?
Грамы ўстрэсли зямли лонам,
Прамкнуў вецер над загонам,
Зляцеў з неба дождж на нивы,
А дагэтуль не пашли вы.
Гэй, сяўцы, на ваш прыход
Жджэ зямелька, жджэ народ!
Бацькоў косци, што ў магиле,
Нашэ поле удабрыли,
Сонцэ сходзе к нам паволи,
Ўжо за ценяў бляскаў боли,
Гэй, сяўцы, гарачы час!
Зямля маци жджэ на вас!

19 $\frac{9}{VII}$ 06.

---

## На жалейцэ.

(С польскага М. Конопницкай).

Ой! чаму мглой пали росы
Халоднай,
Кали я голы и босы
Й галодны?

Цiж ня досыць, што мы плачэм
З нядолi,
А йшче гэта ночка сыпе
Слйоз болей?
Ой! каб зрэнкаю, здаецца,
Саколей,
Зличыў, скольки слйоз лиецца
На поле,
Страх было бы з сяўбы гэтай
Жаць жнива,
Бо сноп кожныб быў крывавы,
На дзива!
Ўзойдзе сонцэ, пусце косы
Змянливе,
На лугочках выпье росы
Й на ниве,
Но слйоз высушыци морэ
Цiж можэ?
Хиба свет увесь запалиш,
Мой Божэ!

19 $\frac{28}{VII}$ 06.

---

## К а м у?

(С польскага М. Конопницкай).

Тым саху, плуг тольки здаци,
Хто прырос к зямельцэ-маци,
Хто загон свой наскрось знае,
Каго холад не пужае;
Хто радзимых сваих нiў

Знае час сяўбы и жниў.
Таму тольки з бараною
На раллю пайци вясною,
Хто лапцями топчэ поле,
Знае нэндзу цвйордай доли,
Працягнуў хто, як свой брат,
Двое рук да ўбогих хат.
Таму тольки серп и коска,
На начлезе хто за вйоскай,
Снуе думки пры агнишчэ,
Й верэ ў прышлай доли йгрышчэ,
Каму ў поли труд — закон,
А чужые з нивы вон!

19 $\frac{11}{VII}$ 06.

---

## Сон на куццю.

(С польскага Иды Пилецкай).

Сюды, ка мне, за стол, хто другам,
Хто свой, ўсе сядзьма разам;
Ты, жонка, дзетки, браццы, кругам,
Во гэтта—пад абразам.
Ка мне, дружки! хай вас угледжу,
Витаю хлебам, соляй.
Куццю сягоння, сам ня ўседжу
Адзин с сваею доляй.
На стол, як чыним вякоў многа
Сенца паслаў, глядзице.
Падблисцесе ж!.. вянком старога
Свае ўсе акружыце!

. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Стол доўги, ў круг свае ўсе сами,
Твар кожны весел, ясны,
У кожнага душы раями
Снуюцца думки шчасны.
И разам слуг людок нясмелы
Нам пасадзици трэба,
Ўсих братней згоды анйол белы
Благаславиць хай з неба.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Падайце ўборы мне яркие,
Ў жалобных нахадзиўся,
Пры мне сягоння ўсе близкие,
Сягоння Бог радзиўся.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Пуста кругом!... Гэй, гэй, свае дзе?...
Дзе анйол захаваўся?.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Снуюцца цени... сэрцэ брэдзе,
Ня чуюць... Сам астаўся...

19 $\frac{24}{\text{VIII}}$ 06.

---

## Шчупак, Лебедзь и Рак.

(Крылова).

Там, дзе ёднасци и згоды
Нима шчырых у людзей,
Праца йихняя заўсйоды
Лиха, марне прападзе.
  У калйосы запраглися
  Раз Шчупак, Лебедзь и Рак:

С усих сил вязци ўзялися.
Воз ня рушыцца нияк.
Пад нябйосы Лебедзь рвецца,
Шчупак цягне у ваду,
Распусциўшы клюшни, пхнецца
Рак назад, як на бяду!
Хто з йих винен, хто нявинен,
Не нам гэта раз'ясняць,
Но калйосы и дагэтуль
Як стаяли, так стаяць!

19 $\frac{25}{VII}$ 05.

---

## Над калыскай.

(Наслядаванне з Лермонтова).

Спи, маленьки мой сыночэк!
Вочкам не миргни,
Свеце месяца кружочэк,
Тыж а доли сни;
Спи и слухай песни гэтай,
Ды ўспомни кали;
Спи, пакуль не знаеш света,
Люли, люли, спи!
Падрасцеш, зазнаеш гора,
Папиваеш слйоз,
Твае силы зломе змора,
Спека, ды мароз.
И спаткаешся на свеце
З неправўдай, з людзьми,
Спи, сыночэк! месяц свеце,
Люли, люли спи!

Падрасцеш и мусиш ноги,
Як кожны мужык,
Укруцiць в убор убоги
Из липовых лык.
У йим помачы папросиш
Для сябе людзкой;
Спи, пакуль лапцей ня носиш,
Люли, родны мой!
Павяду цябе да пана,
Пастаўлю служыць,
Там ат вечера да рана
Будзеш ты рабиць.
За свиньми, ды за сахою
Будуць пхнуцца дни,
Спи, пакуль ты не слугою,
Люли, люли, спи!
Хлеба, грошы ты слугою
Мала будзеш мець,
Аплявухаў жэ за тое
Ня будуць жалець.
Кроўую вочы залиюцца,
Тыж працуй, цярпи!
Спи, пакуль не здзекаюцца,
Люли, люли, спи!
С часам пойдзеш и ў салдаты
Слуга ўжо Цару,
За трыццатую ат хаты
Загоняць гару,

. . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . .

Дамоў вернешся да бацьки,
Бацька бедзен сам,

Пойдзеш зноў на хлеб батрацки
Служыци панам.
Штось няўгодзиш, пан багаты
Гикне: вон идзи!
Спи, пакуль ня гоняць с хаты,
Люли, люли, спи!
Тыж ня рынешся ў канаву
З гора, ды з бяды,
Красци выўчышся на славу,
Пан будзеш тады.
Што? з напасци не прапасци,
Гули гуляки!
Спи, пакуль ня ўмееш красци,
Люли, люли, спи!
У вяликие ты людзи
Выйдзеш з беднаты,
Шаблю звесиш чэраз грудзи,
Стражник будзеш ты,
. . . . . . . . . . .
. . . . . . . . . . .
Будзеш пан вялики з виду,
И сволач душой,
Спатыкаць цябе я выйду
Ты махнеш рукой.
Чужым будзеш ты у хаце
На радной зямли.
Спи, пакуль ты тут пры маци,
Люли, люли, спи!

19 $\frac{26}{VI}$ 06

---

## Чаго нам трэба.

(Наслядаванне).

Трэба нам, трэба перш-на-перш хлеба,
Хлеба каб стала на цэлиньки год,
Дроўцаў палена, коникам сена,
Капейку якую сабе на зварот.
Трэба нам, трэба, як ласки з неба,
Лепшы, даужэйшы зямельки шнурок,
Сытай скацинки, новай хацинки,
Каб красаваўся пры хатцэ садок,
На свята скварку, часам и чарку,
Булки и сыра гасцей частаваць,
Цэлы адзетак, ксйонжак для дзетак;
Трэба нам школы па вйосках стаўляць.
Роўнай дароги, ботаў на ноги,
Мультану жонцэ на лепшы каптан;
Жыць смела ў хатцэ, и не баяцца,
Каб не ганяли у воласць, у стан.
Доктара трэба, шпиталь нам трэба,
Дарма лячылисяб дзе бедняки,
С торбай ж на старасьць каб не цягацца,
Трэба устроиць прытулак таки.
Ой многа, многа для вйоски ўбогай
Трэба ўчынищи, каб добра жыла,—
Не плакаць тольки, не раниць больки,
Больки, якую нядоля дала.
Пры ласцэ Божэй усйо мы зможэм,
Гора затопчэм сильнай нагой,
Звальчым нядолю, звальчим няволю,
Светач запалим шчасця свайго!
З'яснеюць ночы, высахнуць вочы,

Злитые горкай бядноты слязми;
Голад загине, бяда пакине!
Долю мець будзем,—эй! будзем людзьми!

---

## Змачу пйорка...

Змачу пйорка ў ватрамэнту
Ды як чыркну па паперы,—
Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—
Як быки, стаяць литэры.
Глянеш, у ваднэй з йих кучы
Прачытаеш: «усе браця»..
У другой гоман траскучы:
«Нима невукаў у хаце».
А у трэццяй дык свабоду
Видзиш вольную пад неба;
А ў чацвйортай—«для народу
«Досиць грошы, досиць хлеба!»
А хто гэта прачытае,
Скажэ: добра написана;
Скажэ: штосьци мужык знае,
Дарма што бядней ат пана»!...
Дык вот кали атрамэнту
Крыху выллю на паперы,
Крэнту-мэнту, крэнту-мэнту,—
Як быки, стаяць литэры...

---

## Пры скацине.

Ящчэ и сонцэ не ўзашло
Людзей на днеўны труд будзиць,
Тру-гу, тру-гу! на ўсйо сяло
Труба пастырская гудзиць.
Тру-гу, тру-гу! ўставай,
Хто жыў, адзин, други,
Вароты адчыняй,
Скацину выганяй,
Тру-ги, тру-ги, тру-ги!
Ўстае сяло на трубны гук,
Спяшыць к жывйолине сваей,
И вот раздаўся рык и грук
Кароў, авечак и свиней.
Тру-гу, тру-гу! идзи,
На поле, на луги,
Скацинка, и глядзи,
Друг дружку не бадзи.
Тру-ги, тру-ги, тру-ги!
Идзе ўсйо войска на папар,
Прышло, скланила галаву,
И дружна, дружна мал и стар
Скубе вильґотную траву.
Тру-гу, тру-гу, дзяры
Травицу с пад наги,
Даждаўшыся пары,
Напьешся ты вады.
Тру-ги, тру-ги, тру-ги!
Скубець скацина, а пастыр
Пасе, пильнуе ат ваўка,

Снуе вакруг удоўж и ўшыр,
То цйолку злае, то быка.
Тру-гу, тру-гу, с трубы
На свет шырок, даўги
Мкне адгалос трубы,
Аж стогне лес, дубы,
Тру-ги, тру-ги, тру-ги!
Но вот наеўся и идзе
Рагаты сыты полк у хлеў,
Пастух за йим у грамадзе,
Но ци й пастух сыт, ци пад'еў?
Тру-гу, тру-гу, й ня сниў...
Пастыр, слуга слуги,
Свой полк карми, паси,
Сам после пад'яси.
Тру-ги, тру-ги, тру-ги!

---

## Падарожны.

Дарогай шырокай, з дароги далйокай,
Дый многа бяз лику гадзин,
На кий абапйорты, стары и абдзйорты,
Ишоў падарожны адзин.
Ишоў йон да вйоски, што близка дарожки
У поли пад лесам была;
Там некали даўна йон жыў добра, слаўна,
Там маладасць-радасць прашла;
Там кинуў йон хатку, и бацьку, и матку,
И жонку пакинуў сваю,
И дзетак маленьких, прыгожых, миленьких,

Пакинуў усю там радню.
У дальняй староицэ лет многа, бяз конца
Пражыў йон у нэндзы цяжкой;
Ни шчасця, ни доли ня бачыў николи,
Бядуючы слйозна парой.
Цяпер на зямельку, сваю кармицельку,
Прышоў, каб пабачыць свайих,
Убачыць каб хатку, и бацьку, и матку,
И дзетак кались-то малых.
Идзець йон, падходзиць и вйоску знаходиць,
Так сама, як жыў ў ей, глядзиць;
И хаты такиеж, гнилые, старые,
Карчомка так сама стаиць...
Тут хата Захарки, там Йоски, Ганчарки,
Там Янкава жонка жыве,
Тут кум Давыдзйонак, там сват Михальчонак,
Там Сорка, што сель прадае...
А вот и садочэк, а вот и дамочэк
Даўнейшы яго тут видаць,
Бо ґанак той самы, з низкими дзверами,—
Будынки так сама стаяць.
Уходзиць у сенцы, аж гнуцца каленцы,
А сэрцэ трасецца, балиць;
Штось будзе тут скора, ци радасць, ци гора*)...
Вось дзверы атпйор, и глядзиць.
Ушоў, паглядае, сваих пазнавае...
Ах, штож? ци пазнае кали?
Заплакаў нябоже, и глянуць ня можэ:
Чужые ужо там были!......

---

*) Варыант Спаткнуўся у ямку, бярэцца за клямку.

## Працуй!

Працуй, бедачышчэ, гаротна!
Ци прэеш ат поту, ци мерзнеш;
Гни спипу младую ахвотна,
Бо прыйдзе гадзинка, и шчэзнеш.
Ой, шчэзнеш, но тольки ня бойся,
Што ўжо и засыпюць зямлйою,
Раз з нэндзай у дружбу завйоўся,
Яна йшчэ паходзиць с табою.
Цяпер, малады и ахвочы,
Ты рвешся, як птушка из клетки,
Да працы и ў дзень, и у ночы,
Но зможэ крывавы труд гэ'тки.
Без часу прыжме, апанує
Цябе неадчэпная старасць,
И моладасць скрышэ ўдалую,
Адгоне ат працы нездарасць.
Пахилицца спина ат горбу,
Удушшэ дыхнуць не пазволя,
Надзенеш старэцкую торбу
И пойдзеш у свет на прыволля.
А мусиш жэ ўперад научыцца
Ты пацераў доўгих, дзядоўских,
Бо, як не патрапиш малицца,
То выганюць гэт'кага з вйоски.
Ты мусиш научыцца, бо маци
Даўжэйшых научыци ня ўмела,
Ды ў беднасци часу циж хваце
За гэтк'ая брацися дзела.
Дык вот, як узброишся гэтак,
У пацеры, торбы и пуги,

И ў рваны старэцки адзетак,
Павер, будуць брамы на ўслуги.
С пагардай, як лишней сабаццэ,
Швырнуць табе лустаю хлеба;
Дзиця цябе будзе пужацца;
Пачне непагодай выць неба.
А ты?.. Ты цани й гэту працу,
Хоць збыцца яе и ня лйогка;
Ня йдзи жабраваци к палацу,
Бо стуль цябе выгане лйокай.

---

## Сяўцу.

Скланяецца лета к закату;
Дзе-не-дзе зляцеў лисць чырвоны;
Павесиўшы лубку на шыи,
Выходзе сявец на загоны.
И поўнай, мазолистай жменяй
Жытцо па ралли раскидае,
Хавае ў зямельку надзею,
Што возьме з сяўбы?—не згадае.
Ци можа цяпер вот, у восень,
Чэрвяк яго працу падточыць;
Ци снег у разводздзя падпарэ,
Ци ў летку грады падрузгочуць;
Ци знишчыцца ў пуньцэ пажарам,
Ци так ат якой-будзь прыгоды.
Такие, ах! горкие думки
Сеўца абседаюць заўсйоды.
Но йон не зважае на гэта,

То ў восень, то цйоплай вясною,
Арэ, барануе и сее
Сваей мазалистай рукою.
Тут кожны, сеўца хто убачэ,
Стары, ци малы, ци кабета,
«Радзи, памажы, Божэ!» кажэ,
А лйогкаж на сэрцы чуць гэта.
«Радзи, памажы, Божэ»! скажэм
И мы сеўцам ўсякага роду,
А с зерня, што з добрага севу,
Збяруць яны й добрую ўроду.

---

## Кепска, братцы, жыць нам стала!

Кепска, братцы, жыць нам стала!—
Нима шчасця, добрай доли!
Кали хлеб йосць, нима сала,
Хоць гарэлки дык даволи.
Ой, гарэлка, як з крыницы,
Да нас цйонгле прыплывае;
Пьюць усе тут бяз ружницы,
Хто яки грош тольки мае.
Пьюць усе, хоць бяда дома,
Хоць лье слйозы жонка, дзеци,
Хоць хлеб—зйолки ды салома,—
И таго нима у клеци...
Пьюць, хоць грош той з крвавым потам
На гарэлку дабываюць;
Пьюць, хоць после дзе пад плотам
Сваю долю праклинаюць...

---

Гета крык, што живе Беларусь!..

Ци завыли ваўки, ци заенчыў вихор,
Ци запеў салавей, ци заґаґала гусь,
Я тут виджу свой край, поле, рэчку и бор,
Сваю матку-зямлю—Беларусь.

Хоць гарыста яна, камяниста яна,
Вирабью па калена, што сею, расце,
Но люблю ж я яе, шкода хатки, гумна:
О, таких нима мусе нидзе!..

С саламянай страхой мая хатка, гумно;
Непачесна, што праўда, виднеюць яны,
Но на йих же сваей клаў рукой бервяно,
И зямлю раўнаваў пад звяны!

С саламянай страхой мая хатка, тачок.!
Многа чутак наводзяць и дум на душу;
Я у сне виджу йих, помню кожны разок,
И у сэрцы, як веру, нашу.

Хатка светкай была, як пазнаў Божы свет;
С хатки бегаў да школы вучыцца чытаць;
Пры лучыне нераз гаварыў казки дзед;
У двор з хатки хадзиў зарабляць.

У тачок збожа, сена, я клаў кожны год;
У йим першы раз Зоси сказаў, што люблю;
У йим з дзетками после збираў умалот,
И цяпер пры йим лазню таплю.

А хоць гора зазнаў, зникла доля навек,
Зося парэ зямлю, у свет дзеци пашли,
Но тут неяк прывык к усяму чалавек,
Прырос неяк, як корч да зямли!..

Тут усякая рэч як гаворэ с табой:
И крывая бярозка, и стòлетни дуб,
Снег халоднай зимой, траўка летняй парой,
И асвер, и абциняны эруб...

А бурливы ручэй и зялёниньки сад!—
Хоць брат сэрцэ атдай и душу хоць атдай!..
Сам садочэк садзиў гадкоў двацпаць назад,
А цяпер же вялики, як гай!

С садам гэтым я сжыўся, як с хаткай сваей;
Знаю, скольки з яго маю яблак и слиў;
Шмат начэй скаратаў у йим с Зосяй даўней,
Шмат чаго я у йим перасниў!..

Ой, бывала, як сонейка блысне вясной,
Тожто рай, далибог;—захлипаицца дух,—
Як на ўсе на лады на садок увесь той
Засвяргочэ рой птушак-пяюх!

Тут кукуе зязюля, ци шмат пражыву;
Там чырыкае шпак, там пяе салавей;
Тут крычаць вирабьи и клююць крапиву;
А на ўсйо сонцэ грэе цяплей и цяплей!..

Цяпер глянь, браце, вокам на поле и луг,
На сивец-сенажаць, на вузкие шнуры,

Дзе свистала каса, барабаниў дзе плуг,
Дзе с зары працаваў да зары:

Тут даўги-даўги шнур зелянее з аўсом;
Ближэй гони адны, на йих бульба у шар;
А там далей даўги шнур виднее с жытцом;
А там голы, як бубен, папар.

Пасяродку аўса галависты лянок
Зелянее, инакш атбивая сабой;
Там вусаты ячмень, а там далей на бок
Ад ячменю дзирванчик з лазой.

Да и што гаварыць!—дзе я тольки гляжу,
Виджу родниньки край, сваю матку-зямлю!
Тут и людзи... ат... што!.. аб йих после скажу..
Доли йих надтаж я не люблю!..

А вот, як не любиць гэта поле и бор,
И зялйоны садок и крыкливую гусь!..
А што часам тут страшна заенчэ вихор!..—
Гэта енк, гэта крык, што жыве Беларусь!!

---

### Сватаная.

Прыстройся, дзяўчынка-нябожэ,
Так, як у дзянйочак святы;
Галоўку ўчашы ты прыгожа;
Сягоння прыедуць сваты.
З гарэлкай прыедуць сягоння,
Й запоины будуць твае;

Падумай, куды ця загоне,
Куды ця благи лйос пашле.
Падумай, як прыдзецца жонкай
Вайци да хацинки чужой,
Зазнацца с чужою старонкай,
Злюбицца с чужою сям'йой.
Дасць бацька пасагу: цялушку,
Й свинню, ци авечку з ягнйом;
Дасць маци выправу: падушку
Ды кубел стары с палатном.
Усйо гэта возьме твой милы,
Як с купленой, возьме с табой,
А ты будзеш аж да магилы
И жонкай яму, и слугой.
Павинна служыць ты и мужу,
И ўсей яго слухаць радни;
На працу, на голад, на стужу,
Зважаць не павинна ани.
Ня будзеш чуць ласкавых словак,
И свйокар палае, й свякроў;
Прытыкаў заловак, ятровак,
Напьешся и ўгроз дзевяроў.
Цярпець будзеш многа, ды часам
Паскаржышся мужу свайму,
Багаты й сваих крыўд запасам,
Не дасць рады гору твайму.
А гора твайо, на пачатку
Малое, начне прыбываць,
Як станеш ты звацися маткай,
Дзицйо пачне грудзь тваю ссаць.
Жаць пойдзеш далйока, ци близка,
Муж пойдзе араць, ци касиць;

С табой йдзе дзицйо—и калыска
На поли на козлах висець;
А вернишся с поля да дому,
Гаротное гора твайо!
Пачнеш паглядаць пакрыйому,
Ци хлеба хоць трохи йшчэ йо.
Слуга, жонка, ўрэшце и матка,
Ўжо знаеш, што трэба рабиць.
Спаўешь у пялйонки дзецятка,
И станеш вячэру варыць.
И вечна не знайдзеш спакою,
Ў замужнем, бязвольным жыцци.
У цэркаў нядзелькай святою,
Ня будзеш мець часу пайци.
Ў дарогу ты выправиш мужа,
Й пачнеш яго с страхам чэкаць,
А хоць не раз поўху и ўдружэ,
Павинна пьянога спаткаць.
Каса твая доўгая пьяным
Патузанай будзе не раз;
Набье синякоў пад каптанам;
Зрачэшся дзявоцкихъ прыкрас.
Прытухнуць ат слйоз ясны вочы,
Зблядзее, паморшыцца твар,
А ў сэрцы, сягоння ахвочы,
Замрэ твой милосны ўвесь жар.
Нявольника с краю нядоли—
Гаротнай нявольницай ты,
Ахвярай ты век без патоли
Трудоў, беднаты, цемнаты.
Ну што там смутнееш, нябожэ?
Гарэлку папьеш зараз ты!..

Идзиж и прыстройся прыгожа,
Каб не адряклися сваты.
Ўпадоба быць мусе нязмення,
Каб з дому бардзей паляцець,
Бо дома.... и дома ня меняй,
Як замужам, мусиш цярпець.
Званки ўжо звеняць на дарозе,
Вот госци пад брамай крывой,
Идуць, вот ужо на парозе...
Ты плачэш?!.. Чаго? Бог с табой!
Дзяўчынка, ци я цябе песняй
Разжалиў панурай сваей,
Што гэтакъ лиюцца балесна
Слязинки с прыгожых вачей?
Кинь плакаць и смейся! хай плачэ,
Хто песню нядоли запеў,
Хто прышласци светла не бачэ,
Хто змалку дзйон шчасця ня меў.
Жалобных ня слухай ты шумаў,
У силы свае цвйорда вер,
И лепшую долю прыдумай,
Як гэта, што маеш цяпер.

---

### Маладый на вяселли.

Ужо звязали руки вам
Прад алтаро́м на веки,
„Сама"—ўжо жонка, мужам „сам",
Ня треба вам апеки.
Каб хлопец, маци кине ўчыць,
К „самой" не падсукаўся;

„Самога“ бацька не збурчыць,
Каб па сялу не шляўся.
Вы сами будзеце ўжо знаць,
Што годна, што ня годна,
Адно другога пильнуваць
Лепш матки, бацьки родных.
Як што там далей будзе ў вас,
Не нам тут раздумляци!..
Вяселля ў вас, а ў гэты час
Мы хочым пагуляци!..
Гарэлку п'йом мы, як ваду,
Ядзйом сыр, масла, сала,
Загнали ў кут нуду-бяду,
Чуй!.. музыка зайграла.
Усе́дзець трудна за сталом,
Аж ходзюць, так здаецца,
И ноги, й плечы хадуром,
И сэрцэ б'ецца, б'ецця.
Скарэй, скарэй яду на бок!
На бок сталы и лавы!
Гульнйом, дзяўчынка, мой дружок!
Часцей таких забаваў!
И шчасця—дым, и праўда—дым,
А клйок—гульня, пахмелля.
Гукнйом мы „дзякуй“ маладым,
Што ўстроили вяселля.
Разгул таки гады-ў-рады
Пацешыць прылетае.
А гэта што?... хмур малады,
И плачэць маладая?
Чашы камення ў сто сякер,
Ня выстругаеш крэсел,

Я плакаў некали... цяпер
Глядзи, нима слйоз—весел!
И ты, злучона пара, пей,
А я вот павиншую.
Мець спор вам з любасци сваей!
Мець долю не благую;
Мець клеци поўные з дабром,
Мець миласць, зголу ў хатцы,
Й так жыўшы, жыўшы у двайом,
Вунукаў дачэкацца!

---

## Агароднік.

(з Некрасова.)

На людзей нападаць, забиваць не хадзиў,
Не хадзиў, куды ночкай идуць цемняки,
Праз дзяўчыну-красу я свой век загубиў,
Згинуў з ласки паненки, шляхоцкай дачки.
Працаваў я у садзе у панским вясной;
Вот раз нeяк згрэбаю сучки ды пяю,
Глядзь, дачка майго пана стаиць прада мной!
Гладзиць зорка, ды слухаць песню маю.
Агароднік дасципны, я швэндаўся шмат;
Па дварóх, па месцóх я багатых бываў,
И нагледзиўся там многа пекных дзяўчат,
А такой жэ ни разу нидзе не видаў.
Бровы чорныя, стройна й прыгожа была.
Стала жутка, я песни сваей не дапеў.
А яна?... штож яна?... пастаяла, пашла.
Яж за ею у след, як шалйоны, глядзеў.

Не раз чуў на сяле ат сваих маладзиц,
Што и сам я прыгож, на пагляд не брыдки,
Як той сокал гляджу, круглалиц, белалиц,
Валасы нибы лйон, сам ўвесь стройны таки.
Разыгралося сэрцэ з вясйолай душой,
Но, як глянуў я тут на пакои яе,
Засвистаў и махнуў маладзецкай рукой,
Дый скарэй за мужыцкие думы свае.
А прыхóдзилаж часта яна с той пары,
Пагулять, паглядзець на работу маю,
И смяецца са мной, и крычыць: гавары,
Чаму неяк прыўныў и даўно не пяю.
Яж маўчу, ат чаго смуцен стаў, не кажу,
Галаву звешу тольки на белую грудзь.
„Пазволь, яблынку я за цябе пасажу;
Ты ўмарыўся, пара, знаць, табе атдыхнуць“.—
„Штож такое, паненка, вазьми, на, паўчысь
Памажы мужыку, папрацуй крыху й ты!
Ды як брала рыдлйоўку ў мяне смяючысь,
Тут пярсцйонак убачыла мой залаты.
Ат пахмурнага дня вочы стали цямней,
На губах, на шчэках разыгралася кроў,
„Што с табою, паненка? чаму на мяне
Не прыветна гл[illegible]ш, хмурыш чорную броў?“ —
С[illegible] узяў, скажы мне, ты пярсцйонак таки?“ —
„Скора будзеш старой, як усйо будзеш знаць“.
„Дай мне! я пагляджу, низгаворны яки!“
И за палец мяне ручкай белинькай хваць!...
Пацямнела ў вачах, душу кинула ў дрож,
Я даваў, не даваў ей с пярсцйонкам руку,
Дый прыпомниў тут, знаць, што и сам я прыгож,
И, не знаю ўжо як, цмок паненку ў шчаку.

С таго часу з ей шмат скаратаў я начэй,
Многа шчасця зазнаў, ў ясны вочы глядзеў,
Расплетаў, заплетаў касу светлую ей,
Цалаваў, милаваў, песни родныя пеў.
Мигам лета прашло, ночы стали свяжэй,
Пад дзень шэрань, мароз пад нагами скрыпыць.
Вот раз неяк скрадаўся ў накои я к ей,
Аж хтось, цап! и „зладзея дзяржи!“ тут крычыць.
Так злавили мяне, на дапрос прывяли;
Я стаяў и маўчаў, гаварыць не хацеў.
Красату з галавы вострай брытвай знясли,
И жалезны убор на нагах зазвянеў.
Асцебали спину и пагнали дружка
Ат радзимай старонки у дальни крайок
На бяду и нуду. Знаць любиць не рука
Мужыкам, нам хамулам, ды панских дачок.

---

## Сцйопка Жук.

1.

Сцйопка Жук, па бацьку Йосцэ
Гаспадар усим на дзива,
Ўсими хвалены у вйосцэ,
Жыве згодна и пачцива.
Абычай стары шануе,
Не чураецца сермяги,
Хаты дзедаўскай пильнуе,
Ат суседзяў шмат паваги.
Йон прыкладам для ўсей вйоски,
Добра знае, кали трэба

С сахой выйсци на свет боски;
Кали дожджык пойдзе з неба,
Дзе якое сеяць збожа,
Трудна лепш ад Сцэопки знаци;
Знацца лепш нихто ня можэ
На ралли, на сенажаци;
Дзе якая звадка, схопка,
Годзе, радзе ў поли, ў хаце,—
Адным словам, як наш Сцйопка,
Рэдка нойдзеш гэт'ких, браце.

2.

Вечарынку як састроя,
Бо ўжо дзеци падрастаюць,—
Йосць и сйоя, йосць и тоя,
Музыканты гучна граюць.
За сталом Сцепан садзицца,
Пры йим жонка и суседзи,
Чым паслаў Бог, рад дзялицца,
Ўсих частуе, ўсих прыгледзе.
Хлопцы-зухи и дзеўчаты
Пагуляць тым часам рады,
Стали ў пары сярод хаты
И далей жэ у прысяды.
Нуце, хлопцы, дзень далйока,
Пагуляйце, скольки воля!
Но Сцепан ня зводзе вока;
Лишних жартаў не пазволе.
Там и сям Сцепан шатаўся,
Распазнаў свет доўгим векам;
Хто распусце раз атдаўся,
Кепским будзе чалавекам.

3.

Жыве, праве, шыкам пана:
Крупаў, сала мае многа,
Хлеб вядзеццаж у Сцепана
Круглы год, як у никога,
А хлеб веяны, ўсйо белы.
Эй, што там казаць далйока!
Шнур зямли йон мае цэлы,
Значыць—поўная валока.
З дворам, с панам Сцйопка ў згодзе:
«Кепска», кажэ, «жыци звадай»,
Йон и ў воласци на сходзе
Многа можэ словам, радай.
Жывуць, скажэ хтось вучоны,
За границай лепш народы;
Кормяць людзей миллионы
Шахты, хвабрыки, заводы;
И у нас минулаб лиха,
Каб настаў лад гэт'ки ў людзе;
Сцйопкаж буркне пад нос сциха:
«А ўсйож бедны бедным будзе»!

4.

Сцйопки жонка—вйортка баба,
И язык... эй, што сказаци!
А з руками и мазгами
Трудна лепшай дзе спаткаци;
Ненаўды, што жонки гэт'кай
Сцепан трохи и баицца,
А найбардзей, хоць то рэдка,
Як са сватам падхмялицца.

У такую тады хвилю
Знае жончыну йон плату;
Гатоў кругу даци милю,
А цвярозым прыйци ў хату.
Жонцы справиў чаравики,
Сам жэ ў лапцях ходзе болей,
А пачуе дзе прытыки,
Што ня меў ботаў николи,
Сцйопка скажэ: «эй, там што ты!
«Лепш па зиме лета меци,
«После лапцяў насиць боты,
«Як па ботах лапци ўздзеци».

5.

У Сцепана лад меж дзетак,
Лад на поли, лад у хаце,
Адным словам, жывуць гэтак,
Цяпер мала, пане браце.
Ат Сцепанавай хацинки
Не адойдзе так убоги,
Пагарэлы без асминки,
Сирата без запамоги.
Сцйопка працы не баицца,
Ци нуда гняце якая,
Песняй роднай весялицца,
Цйонгля весел, не ўздыхая.
Стане хтось там наругацца,
Што так весел, хоць цвярозы.
«Лепей», скажэ йон, «смеяцца»,
«Як напрасныя лиць слйозы».
Да ўсяго Сцепан ахвочы,
Як то йосць прыпеў шляхочы,

И да танцу, и ружанцу,
Да выпитки и выбитки.

6.

Плывуць леты, нибы рэки,
Не варочаюцца болей,
Ништо жыць ня можэ веки:
З сваей, з божай никне воли.
Сцйопка выдаў замуж дочак,
Пры малодшым жыве сыне;
Як асинавы листочак
Ўвесь трасецца; горб на спине,
Старасць-слабасць падаспела;
Стаў нядуж к рабоце ўсякай,
Неяк ходзе ўжо ня смела;
Нос распушыла табака.
Часам пойдзе ў лес и лыкаў
Надзярэ яких з пяць пукаў,
З браку ботаў, чаравикаў
Лапци керзае для ўнукаў.
Старасць, старасць—смутны весци!
Ўжо и вушка не прымеце,
Скора, пэўна, будзе плесци
С сваим дзедам на тым свеце.

## Бабулька-прадаўчыца зйолак.

У Минску на рынку,
Ў канцы агароды,
Бабулька старая
Садзицца заўсйоды.
Усякие зйолки
На рынак прыносиць,
И людцаў прахожых
Купляць у ей просиць.
Лежаць перад бабкай
Ци вечэр, ци ранак,
Пучки дзевясилу,
Чабор и румянак.
Ат кожнай хваробы
Йо зйолки, карення;
Лячыць можна йими
Падвей, парушення.
И любчыку навэт
Дасць вам пад сакрэтам,
Ды наўчэ, як зводзиць
Любезничкам гэтым.
И ўсяких, усяких
Дастанице лекаў,
Яких толька людзи
Не знали ад векаў.
Шмат летак бабульцы:
Трасуцца ўжо руки,
Йо пэўна унуки
Ба! навэт праўнуки.

Усяк ей жылося
На свеце, на Божым,
И смутна, самотна,
И с хлопцам прыгожым;
И слйозы лилися,
И песни звинели,
Малойцовы грудзи
Тулила ў пасцели.
Но ўсйож праляцела,
Як яснай маланкай;
Спяць думки и песни,
Ў магиле спиць Янка.
Эй, моладасць—радасць
Минула ўдалая!
Но старасць и беднасць
Нияк не минае.
И кепска бабульцы:
Сивая, худая,
Брак сил працаваци,
Так эйолки збирая;
Нясе их да Минска,
На рынку садзицца,
Збывае и вучэ,
Як трэба лячыцца.
А можэ паможэ
Душы хоць адной дзе,
И праца бабульки
На марна ня пойдзе.

---

## Шавец.

Я шавец-маладзец,
Знаю дзела свайо;
Слухаць мусяць мяне
Капылы и скур'йо.
        Дружна праца идзе
        Пры варштаце маим:
        Жонка дратву прадзе,
        Вучень сучэ яе.
Я сам крой намачыў,
На капыл нацягнуў,
Стуку-стук малаток,
Шылам, дратвай мигнуў.
        Падашву прылажыў,
        Нагнаў штыфтаў кругом,
        Абсац гладка прыбиў,
        Дый падкоўку на йом.
Капыл выдзер и вот
Бот на траме висиць.
Эй дзивися, панок,
Добра будзе насиць!
        Эй! дзивися, хто жыў,
        Яки майстэр я зух!
        Бот, камаш, чаравик
        Вам састрою удруг.
И багат жэ б я быў—
Хоць ня бедзин и так—
Каб лапцей не насиў
Мужычок-небарак.
        Ой былож-бы, было
        Заробòткаў, трудоў!

Часцей чарку б элавиў,
Пагасциў у дружкоў.
Но йон хиба тады
Стане боты насиць,
Як ня будзе с чаго
Лык на лапци лупиць.

---

## Старцы.

С торбай кажны, з думкай важнай:
«Дадуць—не дадуць»,
Даўным следам дзед за дзедам
На кирмаш идуць.
Як дарога к хаце Бога,
Альбо й так аб што,
Не пытаюць, добра знаюць,
Звон пачули—й до'!
Быццам горбы, ихни торбы
Выдаюць парад.
На кирмашы старцы нашы
Садзяцца у рад.
Кожны прэцца ў лепша мейсца
Чуй! аж во кали,
Ў тройцы, ў парцы хрыпла старцы
Песню завяли.
Там той з лирай у тры шчыра
Струны залас,
Той с кантычки, той с прывычки
Модлы дзьме свае.

За змарлые, за жывые,
Душки, за жыццйо,
За скацинку, за збажынку
И за ўсйо, за ўсйо.
Гэй, малитвам, быццам битвам,
Старйо атдалось,
А спад воку глядзиць к боку,
Ци дающь хоць штось.
Вот паследни у вабедни
Кончыўся «падай»;
Сыплюць людзи, што то будзе,
Старчэ, намагай!
Ниспакойна с силай двойнай
Песень гул памкнуў,
И ўвесь гэты рой распеты
Руки працягнуў.
Дыдак густа й хлеба лусты
Сыпяцца, пры чом
Разам с хлебам, за што трэба
Малицца дзядом.
Час праходзе, годзе, годзе
Глядзець на полк наш!
Пашли людзи, што то будзе,
Кончыўся кирмаш.
С торбай кажны, з думкай важнай:
«Ци дзе больш дадуць»,
Даўным следам дзед за дзедам
С кирмашу идуць.

---

## Касьба.

Бяжыць час, дзень за днем, скуль вазьмися, Пятрок
Наляцеў и пагнаў к касьбе жыва людзей;
Пашли ў ход малаток, и каса, и брусок,
Стуки-бразь, маху-шась, а дружней, а бардзей!
Свишчаць косы ў траве, проста дзива, гульба;
Размахалися руки, ўзыгралася кроў;
Сонцэ пале агнйом; пот лиецца зы лба;
Абмахнуў рукавом, ды и далей пашоў.
И пракос у пракос вырастае, як стой;
Пан с карэтай бы пэўна праехаў миж йих.
Эх, атдайся рабоце, люд бедны з душой!
Кали есць,—як Бог даў,—як рабиць, за траих.
Махай дружна касой, пакуль згине раса!
Куй жалеза, пакуль не астыне яно!
Рэж аселицу, брат, кали зрэзаў гумно,
А там далей—на лог нехай мчыцца каса.
Люба выйци, прайци па лагу, па гумне:
Гоман нейки стаиць, сенам пахне укруг.
Ляжыць трупам трава, як народ на вайне,
А ў траве коник шастае, весяля слух.
Вот падвяла крыху; жыва, бабы, на лог!
Трэба скошенае разбиваць, агрэбаць.
Сюды-туды!.. глядзи, ўжо пракосы ў валох.
Глядзь!.. и копами ўбрали усю сенажаць.
А тым часам из неба пасыпаўся страх:
Дождждык пырскаць начаў, гром азваўся глухи.
Шчыра цешацца людзи, што сена у капах,
Бо ў пракосах счарнелаб, ды й спор не таки.
Сена кожны шануе, бо ведама ўсим,
Кали хлеба ни хвать, то знасиць ўсйож лягчэй,

Чымсяб корму не стала прадвесням зимным
Для скацинки; тады... хоць душой загавей.
Дружна йдзи, бедны люд, кали сонцэ к касьбе
Заве з неба, ды голадам мучышся ты.
Рэж траву, дабывай долю силай сабе!
Часам выйдзеш и ты з беднаты, з цемнаты.
Дружна йдзи, бедны люд, и с зары да зары
Працуй, бийся, ня гнися пад лямкай цяжкой!
И за праўду сваю, дачэкаўшы пары,
С касой вострай сваей дружна, смела пастой!

---

## Г р а д.

О вы, што век цэлы адзеты и сыты,
И з думкай аднэй, каб пражыць весялей!
Ци бачыли нэндзу у вйосцы забытай?
Ци бачыли працу загнаных людзей?
Ци гнуўся з вас хто над сахою у поли?
Ци вйоз з вас каторы да места дроў воз
На хунт яки крупаў, на хунт яки соли?
Ци пйокся на сонцы, ци мйорз у мароз?
Палац ваш смяецца над нэндзай бедачай,
Век музыка, песни и сытасци крык.
А там гэт, у вйосцы и стогне и плачэ,
Ваш брат, пагарджаны галодны мужык.
Пад потам арэ, барануе и сее,
Каб белага хлеба згатовиць для вас,
А хтож з вас яго у бядзе пажалее?
Паслухалиж песни яго вы хоць раз?

Эй! песняж ад вас, як ад иней, адабьецца;
Вы й песню бы рады здушыць, аплевацъ,
Бо ў песнях шмат скаргаў на хціўцаў нясецца,
А ў скаргах бяздольных шмат праўды чуваць.
Гуляйце да часу уцехай шалйонай,
А можэ и памяць надойдзе калі;
Эй! каб не спаткала вас доля Нарона!
Рым можных шаленства к упадку звялі...
Зашоў я раз к пану за нейкай патрэбай;
Сяджу, аж прыходзе из вйоски мужык,
Худы, чуць жывы, знаць даўно на еў хлеба,
Хоць праўда, к бязхлебью з йих кажны прывык.
Ушоў, весь трасецца, стаиць у царозе,
Баицца йсци далей, ат, ведама гад!
Йон тольки адважны дрыжаць на марозе,
Крывавы пот лици, каб пан быў багат.
Стаиць и ўздыхае, и слйозы ўцирае,
З наги на нагу праступае усйо так,
Гняце, знаци, думка яго неўдалая.
Аж пан запытаўся: «Што скажэш, бедак?»—
«Паночку миленьки!» той гэтак азваўся:
«Будзь ласкаў, змилуйся над горам маим,
«Дай хлеба, ци жыта: я ўсюдах цягаўся,
«Нидзе не дастаў, сам галодны саўсим,
«И дома сямйора дзяцей асталося,
«Нятоплена печка, нима што варыць,
«А дзетки заводзяць и жонка галося...
«Няйдзи хоць у хату, так трудниньска жыць.
«Будзь ласкаў, паночку! як будзе работа,
«Я ўдвое за ласку табе адраблю.
«Дай с пудзик, мей литасць над нашай бядотай,
«Пажыч, бо циж буду я грысци зямлю?!»

И молицца гэтак, и жалицца гэтак,
А скольки слйоз вылиў, сам хыба не знаў,
Клянецца на жонку, клянецца на дзетак,
Што йон не гультай, а што Бог гэтак даў,
Што град выбиў збожэ усйо да калиўка,
Так збиў, нибы конь пакачаўся ў траве;
А дображ была так абсеяна ниўка,
Як глянеш, здаецца, па ней штось плыве.
«Эй! шчыра, паночку», йон гэтак гаворэ:
«С сахой, з бараной увиваўся я ў поли.
«Ару, барануюда поту, а скора,
«А ўсйо, каб зрабици, а ўсио, як найболей;
«Аж глянуци люба, абсеяў шнур цэлы;
«Лялея—пшаничка, авйос и ячмень,
«Лялея—други шнур, с жытцом ужо белы;
«Хаджу и любуюся кажниньки дзень.
«Вот, думаю, будзе и крупак, и хлеба,
«Што лишняе, ў Минск павязу и прадам;
«Вот будзе и соли, эй, ласкаў Бог з неба!
«Атсыплю ў магазын, падатки атдам...
«Напрасныяж думки были усйо гэта:
«Нядоли праўдзивай, знаць, родны я сын!
«Напрасна я биўся вясну так и лета:
«Усю маю працу дзень знишчыў адзин.
«Раз неяк на небе з'явилася хмура;
«Усяки з нас летняму дождлыку рад;
«Но тут ишла страшная летняя бура,
«О, Божэ, хацяб не пасыпаўся град!
«Гром глуха грахочэ пад небам высоким,
«Прыцихнули птушки, схаваўся каршун,
«Мигнула маланка атблескам далйоким,
«Ударыў у елку гняўливы пярун.

«Свет пеклам здаецца, зямля раве дзика,
«Миргаючы, неба, маланак агнйом,
«Азвалася бурай шалйонай, вяликай,
«Лясы затрашчэли; дождж линуў лиўнйом.
«Пашоў я на заўтра к пасевам на поле;
«Падходжу, дзе жыта, дзе шнур з ярыной,
«Хацеўбы вярнуцца, няйци ужо болей:
«И смутна, и жутка, сам неяк ня свой.
«Прышоў и... затрэслися ноги, и руки,
«Хацеўбы заплакаць, дый слйоз не дастаў.
«Дзе стольки ўлажыў я и працы, и муки,
«Мае ўсе пасевы с замлйой град змешаў»...
Так скончыў нешчасны свой жаль выливаци;
Па тварыж сляза за слязою бяжыць,
Як раницай летняй дзе на сенажаци
Раса на травицы висиць и блишчыць.
Заплакаў бы, браце, я разам с табою,
Но слйозаў цяперэшни свет не ўзнае;
Сил трэба магучых, каб вальчыць з бядою,
А слйозы, брат высьмяюць толки твае.
Вы скажеце; пэўна, што пан злитаваўся,
Даў хлеба, ци збожа, памог у бядзе?
Циж знае, чым гора, хто з горам не знаўся?
Паноў таких добрых нима, брат, нидзе:
Паны тольки могуць гуляци да поту,
И беднаму гэты пры мне сказаў там:
«Плациў я у летку табе за работу;
«Плациж и за хлеб мне: я дарма не дам»!

---

## Гарэлка.

Атрутай маею
Хто стаў заливацца,
Астаўце надзею
Мець шчасця у хатцэ,
Мець шчасця, багацця,
Жыць згодна з раднйою,
Спакою зазнаци,
Не плакаць душою.
Я з дзетками, з жонкай
Дзень кожны паваджу,
Зазнацца з палонкай
Пад'юджу, параджу.
Маей як атрутай
Душу атуманиш,
И мысли паплутаў,
И светла не глянпш.
Ўсе людзи дружочки,
Ня людзи—анели!
Атроксяб сарочки,
Каб тольки хацели.
Таким добрым будзе
З йих кажны бяз меры,
Хоць будуць жэ людзи
Глядзець, як на звера.
Хоць будзеш ты горэй,
Як звер, выглядаци,
О, звер без пакоры,
Штоб шоў кроў глытаци.
На лоб павылазяць
Чырвоные вочы,

И облик твой сказяць;
Твар плямы абскочаць.
Расхрыстаеш грудзи,
Ты, п'яны гуляка,
Язык жэ твой будзе
Брэхаць, як сабака.
О, дзиким, о, страшным
Зраблю без прагляду.
Га! бойся, нешчасны,
Быць пад маей ўладай.
Сягоння шчасливы,
Як мною зальешся,
А заўтра, о дзивы!
Пиць больш заклянешся.
И каяцца будзеш,
Мяне праклинаци,
И сам сябе злудзиш,
Карчомки не знаци.
Парваць жэ ня мециў
Маих, брат, кайданаў,
Праходзе дзень трэци,
Ты йдзеш ужо п'яны.
Атрутай маею
Хто стаў заливацца,
Астаўце надзею
Кали-будзь разстацца.

---

## Я видзеў.

Я видзеў душы сильные,
Вихры каторых няньчыли,

И пели песни дзиўные,
Каб шли и с хвальшам вальчыли.
Каб вальчыли з непраўдаю,
Каб вальчыли с кайданами,
С кайданами пякельными,
З людзких касцей каваными.
И вышли души сильные
На вальку, на крывавую;—
Дый смерцию акрылися,
Як несмяртэльнай славаю.
И тольки плакаць хочэцца,
Над гэтыми ахвярами,
Над гэтым краем змучаным,
Над гэтыми цяжарами.
И тольки плакаць хочэцца,
Прад цэлым светам жалицца,
Што так зямелька родная
Нядолею нэнкаецца!

---

## И як тут не смеяцца.

(Куплеты).

На нашым хитрым свеце
Усяк жыве народ:—
Адзин жыве палюдзку,
Други жыве, як скот.
Адны другим таргуюць,
Купляюць, як той квас,—
Падноски надбиваюць
Стаячаму не раз.

И як тут не смеяцца,
И праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды некаму страляць.

Вот мчыцца пан на парцэ,
Упражка зихацыць!
И коники абмыты,
И пански лоб блишчыць!
На цэлы свет с пагардай
Дзиким глядзиць казлом!—
А быўже йон недаўна
Авечак гандляром...
И як тут не смеяцца...
(як выжэй).

Вот хцивец грошы многа
С працэнтаў назбираў,
И хвабрыку паставиў,
Людзям заробак даў.
Працуе душ галодных
Эй, социнки са дзьве;—
А ненасытны хцивец
Крывавы пот гняце.
И як тут не смеяцца...
(як выжэй).

Вот дохтар, пан вяльможны,
Лекар мужчын, кабет,
Вядзе убогих хворых
Ў атдзельны ґабинэт;
Пукнуў, паслухаў троху,
И кажэ рубля даць;
А сам, як быў студэнтам,
Шоў бедным памагаць!...

И як тут не смеяцца...
(як выжэй).

Вот ксёндз, служэбник Божы,
Ўвесь навучае люд,
Каб у касцёл хадзили,
Каб не грашыли тут,
Каб к жонкам на вячорки
Ня бегали чужым,
Бяднейшым памагали;
А сам?... ну, Бог и з ём!..
И як тут не смеяцца...
(як выжэй).

Вот аканом пузаты
На чым ёсьць свет раве,
Хоць клёку за капейку
Не мае ў галаве;
И лае так сусветна
Вясковых ён людзей;—
А пасциў жэ недаўна
У вёсцы той свиней...
И як тут не смеяцца...
(як выжэй).

Вот шляхциц, нэндзны шэршень,
Той выскачак адзин,
Зациркай душу мучэ,
Ужо ён гаспадзин!
Бяднейшаму ўжо брату
Руки не падае,
Хоць сам часнок, цыбулю,
На рынку прадае...
И як тут не смеяцца...
(як выжэй).

Вот мужычок быў хитры;
Абрали старшыной;
Як чорт, перамяниўся—
И свой яму—ня свой!
З урадникам у шайцэ,
И писарам благим,
Йон мужыкоў, як липак,
Абдзерци рад ва ўсим.
И як тут не смеяцца...
(як выжэй),
Цяпер, мае паночки,
Нихай будзе канец!
Ня ўсйож куплеты пеци
Таки я маладзец!
Нихай каму ня люба,
Што купляцисгъ крычыць: —
Хто парася украдзе,
Таму ў вушах пишчыць!
И як тут не смеяцца,
И праўды не сказаць:
Варон на свеце многа,
Ды не каму страляць!

---

## Хто я?

(Думка).

Я не сокол зоркооки,
Не арол адважны,
Што так думна за аблоки
Ўзносицца з'йих кажны;

Навэт я не салавейка,
Што пяе так слаўна,
А я тольки вирабейка,
Ўзрошчэны пад Гайнай.
Як йов, край шаную родны,
Не ляту ў чужые,
И с зимой вальчу халоднай,
Хоць то сэрцэ й ные.
Як йон, сеўбы дзе на плоце
И песни чырыкаў,
Людцаў родных бы ахвоциў,
К лепшай славе кликаў.
Як йон—сад, я хатку, поле
Люблю, хоць не маю,
З вирабейкавай и доля
Мая роўна, знаю.
Вирабейку стужа зморэ,
Або ястрэб схваце;
Мяне ж зломе майо гора,
Ў зямлю кине спаци.
Над магилаю крыж с хаткай
Паставяць мне людзи,
Вирабейкава ж дзицятка
Нада мной пець будзе.
И мне будзе смуткаў мени,
Лежучы ў заперци,
За жыцця—слйозы, цярпеня,
А песни па смерци.

---

## Каму?...

Абецанка—цацанка,
Но не ўсякаму радасць.
(Прыказка).

Каму вас, песни, я нясмелы
Тут буду пець, снаваць з душы?
З душы нешчаснай, набалелай,
Аж, змучан, згину дзе ў глушы?
Ци для тых цёмных, нешчасливых,
Што не патрапяць прачытаць,
Ци для тых светлых, а зласливых,
Што не захочуць вас и знаць?
О! веру, веру, што загнаны
Мяне не здрадзе мой народ;
Но цёмны ён и акаваны,
И бедны мысли яго ўзлёт.
И вы, душы маей тварэння,
Ў незнанни будзеце марнець;
Таптаць вас будуць без сумлення;
Пацук рукописи патнець.
Аж нейки ўчоны моль с прыпадку
Натрапе, с пылу абтрасе,
Чытаць вас стане ат пачатку
Спад акуляраў на насе.
Прагледзе й скажэ: «Матэр'ялу
„Для этнаґрафии людзей
„На Беларуси тут не мала;
„Жаль тольки, што нима усей,
„Усей рукописи панурай.
„Хвалько паэта! знаць, не раз
„Цаниць даваў яе для шчураў;

„А шчуры ж, спраўджана и ў нас,
„Истоты подлые, низкие;
„Пяўцоў йим мысли не ў карысць;
„Йим праў навуки хоць якие,
„Дабро чужое рады грысць.
„Но ўсйож рукописи я гэтай
„Так не астаўлю и вазьму,
„Аб ей и, ким быў той паэта,
„Стацю састаўлю па свайму.
„Часць вершаў ў друку апынецца,
„Ня знишчаць мышы йих саўсим;
„Песняр «з народа» ўзвесялицца,
„Што йо ў газэтах и аб йим...»
Так будзе думаць моль вучоны
И рэшты аркушаў шукаць.
. . . . . . . . . . . . . . .
Спали вас, песни, дым чырвоны,
Чым мае гэт'ки люс спаткаць!

---

## Атпаведзь.

Вы, паны, мяне с песняй к сабе прызываеце,—
Майго люду апець справядливую справу;
Рай, николи няснйоны, вы мне аткрываеце:
Знайду, кажэце, ў гэтым и долю, и славу...
Шумна вецер пяе песню дзикую, крвавую
Над зямлйой, злитай потам людзким и крывйою;—
Не ганюся, паночки, ой не, я за славаю:
Чую, доля ня ўзойдзе мне светлай зарою.
Чую я, чуе сэрцэ майо жалосливае,

Душа ные, а болем сдымаюцца грудзи.
Як радзиўся, усйо шло са мной нишчасли-
вае;—
Не пацешыли ў смутку и добрые людзи.
Мяне маци мая не пацешыла родная:
Над калыскаю пела аб цяжкай нядоли.
Яе песням зима втуравала нягодная;
Вихар гэтые песни разносиў па поли...
Як надрос, сильны стаў, пазнаў свет, не
пацешыла
Мяне моладасць, поўная зводных надзеяў:
Холад, голад, бяду на маим карку вешала,
Ласк за гора свайо з йей ня видзеў нигдзе я...
Не было для мяне на куце мейсца вольнага;
На маю беднату паглядано з насмешкай;
У парозе было майо мейсце, бяздольнага;
За парогам калючками слалася сцежка...
Не пясцили мяне ручки дзевачак белые,
Не шаптана мне слоўцоў сэрдэчных кахання,
Як пустэльник, як мних у кляшторы, дни
целые
Жыву так и маркочуся з рання да рання.
Як цыган той, па свеце век целы цягаюся,
Бяз прытоння, бяз роднинькай цйоплинь-
кай хатки;
Над чужой працай з сил маладых выби-
ваюся;
Светлай веры у пришласць зникаюць ас-
татки...
Так, паночки, у прышлую славу ня ве-
рыцца,
И пустых абецанак мне слухаць ня мила.

А што ў сэрцы майом и душы цяпер дзеицца,
Буду пець, громка пець, пакуль возьме магила.
Буду пець не за славу, праз вас абецаную.
Буду пець, бо люблю свайго краю паляны.
Буду пець, бо люблю сваю песню загнаную.
Буду пець, бо мне дар гэты Богам пасланы.

---

## Эпиграмма на К. В.

Што клйопки трэцяй не стае
У галаве яго,
То гэта, родные мае,
Чуй шмат я ат каго;
Но каб у пекле аж на дне
Сядзеў, хто лгаць пасмеў:
Йон йих и з роду, верце мне,
Ни воднае ня меў.

---

## Аўторцэ „Скрыпки беларускай".

Чутка йграеш, гулка йграеш
Ты на скрыпачцэ сваей,
К небу з думкай падлетаеш,
Шчасця жычыш для людзей.
Ў перагонку с салаўями
Пайдци можэ голас твой.
Грайжэ, грайжэ памиж нами!
Песняй вальчы с цемнатой!
Крэпки струны тваей скрыпки,

У тваей скрыпцэ душа йо,
Ў руцэ сильнай смычок липки
Лйогка ходзиць, як пярцо.
Павядзеш ты йим, и песня
Льецца—простаб слухаў век:
Неяк шчасна, то балесна
Сябе чуеш, чалавек.
Аб чымсь светлым, аб чымсь новым
Твая скрыпка грае нам;
Грае, грае, а ў ей мова
Наша чуецца бяз плям.
Беларуса й яго жонку
Называеш ты людзьми,
Беларусь, яго старонку,
Славиш песнями свайми.
Аж так хочэцца, хоць сциха,
Тваей скрыпцэ втураваць,
Пиць с таго, што й ты, кялиха,
Аб чым граеш, апеваць.
Гэй, песнярка, болей, болей
Нам на скрыпцэ сваей йграй!
Прывитаем хлебам-соляй;
Дзякуй скажэ родны край.
Бедна нашая старонка!
Яе ж люд бядней яе:
Не апеты песняй звонкай,
И цяпер хтож апяе?
Хто?—як кинеш так прыгожа.
Для сваих ты йграць людзей.
...Эй! играйже той, хто можа:
Плакаць будзе весялей.

---

## „Нашэй Доли“.

Першай беларускай газэце.

Гэй! ўсе разам без патоли,
   Беларўсы-дзеци!
Пашлйом дзякуй «Нашэй Доли»,
   Родниинькай газэце.
Нам яе радзимай далей
   Ня будзе ўжо браку;
Шмат гадкоў шчыра чакали,
   А цяпер—ой, дзякуй!
Дзякуй тым, хто нашу мову
   Родную ўскрэшае;
Хто цямноты ў родным слову
   Нашы распрашае.
Дзякуй! и хай «Наша Доля»
   Часцей к нам прыходзе;
А з ей праўда и з ей воля
   Зажыве ў народзе.
Праўда, шмат расце бадыляў
   Нам на сцежцэ нашэй;
А магила пры магили
   Дзикай пусткай страшэ;
Але «Доля» хай адважна
   Ляциць к нам, загнаным,
К грамадзе нашай сермяжнай,
   К горам гартаваным.
Ўрагоў нашых рык шакали
   Не страшэн и ўгрозы,
Бо, бо нас узгадавали
   Кнут, кроў, пот и слйозы.

Прыкупиўшы соли-хлеба,
Привитамо «Долю»,
Як анйола Бога з неба,
Як святую волю!

---

## Беларускай Выданицкўай Суполцэ,

„Загляне сонцэ и ў нашэ ваконцэ“.

Прывет вам, прывет з найцямнейшай старонки,
Ат брацеў, ат сйостраў загнаных сваих,
Шлю радасци поўны, шлю с песняю звонкай:
Витайце, сяўцы нам збажынак таких!
Мяцелицы нашу айчызну зглушыли;
Найлепшых авечак уносяць звяры;
Жыццйо тут зацихшы, як сон у магили:
Тут цйомна, не знаци ни дня, ни зары.
Тут крыўды нешчасных галосяць а мичэнни;
Для духа и цела бракуе тут хлеба.
А мора слйоз вечных, гэй, вечных цярпенняў,
Пажараў—сто сонцаў, каб высушыць, трэба!
Хоць силаў гартоўных не стаць тут няможэ:
Их голад, и холад, и кнут гартаваў;
Но сон их, ах! крэпки, хто смелы стрывожэ:
Сябе хто б таким усясильным назваў?..
Вы зоркаю яснай над гэт'кай землйою
Усходзице сцежки цямнот асветляць;
Выходзице с светлага знання сяўбою,
Вы хочэце ўспйоных будзиць, паднимаць.

О, каб жэ цяпер вы, яснеючы зоркай,
Мил'йонами сонцаў зардзели для нас!
И гэтые сонцы, ды ў нашы ваконцы
Унесли с сабою шчасливасци час.
Нас восем мил'йонау!—эх! би нам паклоны,
Чужник ўсяк, прылишшый да нашай зямли!
Нас восем мил'йонаў... зличы хто, шалйоны!
А гора чамуж мы й кайдан не змаглиʔ!
Но досьць нарэкаць, як кались за прыгону!
Жычэння да вас лепш адно йшчэ ляци:
Каб гэтые носем и с чымсь милийонаў
Ўсе ў вашэй Суполцэ сябрами были.
Гэй, дзивы над дзивы, мкне гоман грамливы!
Глядзице, ўстае беларуски народ;
Айчызну будуе на борах, на нивах.
Што гэтаʔ—то йдзеи, то праўды прыход.

---

## Атплата кахання.

(Здарення праўдзивае).

Вы хочэце казкиʔ—ну, добра, ну, ладна!
Садзицеся вот дзе, слухайце прыкладна.
Яж збаю, пакуль дзень загляне ў ваконцэ,
Но тольки не казку, а праўду, як сонцэ!

На свеци, на белым, пад Гайнай убогай,
Жыў шляхциц багаты; меў поля йон многа,
И коникаў сытых, и ўсякай скацины,
И грошы, што чуць йих ня мерыў асьминай.

Не знаў йон, што голад, што холад, што праца;
Еў смачна, спаў доўга,—пан исты с палаца!
Шмат слуг на яго працавала у поли,
Што праўда галодных, абдзйортых найболи,
А йон жэ, йим плацячы марные злоты,
Стаяў, як над быдлам, ганяў да работы.
Вот гэты то шляхциц, вот гэты багаты,
Пан новай и гонтами выкрытай хаты,
Меў нескольки сйостраў, а стройных и милых,
Прыгожых у твары, здаровых на силах;
Кроў, проста здаецца, змешаная з млекам.
Спаткаўся дзе з йими,—бида с чалавекам:
Загине напэўна з душою прастачай,
И сонца ня ўгледзе, и хатки ня ўбачэ!—
Аж так счараваци патрафяць галубки,
И ихние грудзи, и вочы, и губки!
А надта адна з йих, што звалася Зосяй,
И зґрабнинька ходзе, галоўку лепш носе,
И лепей смяецца, и лепей миргая,
А ўся, як малинка, як кветка жывая!
Ци гдзе загаворэ, ци песню зацягне,
То слухаў бы вечна, так кожны прысягне:
Ой, гетакай песни, ой, гет'кай гаворки
Аж слухаюць птушки, ўсмихаюцца зорки.
Цяпер вам цикавасць, ци гэта паненка
У грудках, у пышных, пад крамнай сукенкай,
Ци мела там сэрца, што шчырым каханнем
Магло адазвацца хоць раз прад скананнем?
Ой, мела напэўна, ой, моцна кахала!
Цяпер так сэрдэчна кахаюцца мала.

Пад горкай, пад крутай, пры цихай лалинцы,
Над вузенькай рэчкай, абапал гасцинца,
Разселися хаты апущэнай вйоски,
Ў каторай то садзик, то дзьве-тры бярозки
Яснейшым приветам здаюцца для хатак:
А далей—вясковы адзин недастатак:
Пахылые хаты глядзяць на староны;
На стрэхах камами парос мох зялйоны;
Спрухнеўшые сцены ў зямлю паўежджали;
А шыбы у вокнах ня больш па дзьве цали.
Цикавасць, ци праз так малое ваковцэ
Загляне у хатку кали нибудзь сонцэ?

У низкай хацинцы, ў ваднэй з найбяднейшых,
Ў ваднэй з няйцямнейшых, ў ваднэй з найкрывейшых
Рос Янка, Лявончык па бацьку, Прывада;
Прыгожы быў хлопец, дзеўчатак прынада.
Што возьме, то зробе, зух першы ў забаве,
Не мае плям чорных на сэрцы, на славе;
У вйосцы, у роднай йон добрым суседам,
Ня крыўдзе дзяцей, не смяецца над дзедам,
Прыветлива с кожным спаткаўся, разстаўся.
Ой, добры быў Янка, хоць з горам то знаўся.
У двор на работу хадзиў йон штодзенна;
Там с працай усякай спраўляўся сумленна;
Дзе тольки ни стане, працуе ў вахвоту,
И славы дакажэ, рваць будзе да поту;
Столетнюю хвойку повалиць у боры,
Корч выдзерци ў пасецы Янка ня хворы;

Загончык як выараў, глянуци мила,
Пракосик прагоне, то значна, дзе сила;
За руки, за працу и чэсць и пахвала!
Быў Янка работник, яких цяпер мала!
А хоць грашми бедзен, другим чым багаты:
Зайздросцили хлопцы, любили дзеўчаты,
Любила и Зося, шляхэцкая дочка,
А гэтаму сведкай и садзик, и ночка.

Хто пройме, прагледзе спаткання, гулянки,
Мирганки и шэпты каханка, каханки?
Хто зличэ па скольки друг дружку цалуе?
Ой, трудна пазнаци, ой, трудна збадаци.
Злаецца, штось бачыш, дай рэшты не знаци,
Бо ночка каханню спрыяе заўсёды,
Збаўляе каханка ат кепскай прыгоды.
А шчыраж, а мила и Зося, и Янка,
Янук, сын мужыцки, а Зофья, шляхцянка,
Што ночку бяз сведак адны каратали,
А шчасци кахання миленька шаптали.
А часам и смутные думки зазвонюць
Да сэрц закаханых; яны их разгонюць,
Абняўшыся шчыра сваим цалаваннем.
Эх, добра хоць трохи пажыци каханнем!
Так смутна, так горка таму жыць на свеци,
Каму лёс кахання ў душы не разнеце,
Хто братняй душы у жыцци не спаткае,
С каторай бы милась сплывала святая,
С каторай бы з горам сваим падзяліўся,
И ў жали паплакаў, к грудзям прыхилиўся.
— «Эй, Зося!» так Янка гаворэ, бывала:
«За што мяне шчасця такое спаткала?

«А можэ нешчасця, а можэ и слйозы?..
«И сам я не знаю, ци пьян, ци цвярозы.
«Ты, панна, и любиш мужыцкага сына,
«Убогага хлопца, пасажна дзяўчына—
«Што людзи, што брат твой на гэта нам скажэ,
«Як праўду пазнае, загадку развяжэ?
«Ты ж паняй и будзеш, и выйдзеш за пана;
«А я буду плакаць ад рана да рана;
«Аж высахне сэрцэ, кроў ў жылах застыне,
«И ўсйо с таго жалю па пекнай дзяўчыне».
А Зося за шыю прыцисне да сэрца:
«Ой, Янка, ой, лгун ты, нядобры ашчэрца!
«Ци ж Зоси ня верыш, што шчыра так
любиць,
«И Янку праз миласць напэўна ня згубиць?
«Як любиць сегоння, любиць будзе вечна,
«И Янка мой добры спаць можэ бязпечна».
Так Зося гаворэ, и Янка забыўся,
Што с паннай, з багатай так шчыра злю-
биўся.
Цалуе, милуе, и ночка йим гетак
Минуткай праходзе; аж летние ўсе так
К канцу ўжо зближалися; поле пусцела,
И восень падходзила сциха, нясмела.
И вот хоць нарэшце лйос чорны йих
здрадзиў:
Падгледзиў брат Зоси йих сходзки у садзе.

Ноч шатою цйомнай зямлю абхинула;
Жыццйо ўкруг замйорла; прырода заснула.
На неби дзе-нé-дзе заблыскали зоры;
Наехали хмараў дажливые горы,

И зорки пагасли, и ўсйо спиць на свеци,
Адзин чалавек жэ ня спиць нешта прэцэ.
Ня спиць пан Лаўчынски, той шляхциц багаты;
Агонь яшчэ свецицца с панавай хаты.
Акропнаю зэмстай палае блюзнерца,
Як ночь на Пакровы, сам чорны и сэрца;
Не бачэ йон света, ни праўды, ни Бога,
Ня хочэ ўжо знаци никога, ничога;
Ўсйо ходзе па хаце, шалее са злосци.
— «Як можна? шляхцянка, — род пански
косць с косци—
«З мужыцкай крывйою змешацися хочэ!
«На свет паказаци ня будзе як вочаў.
«Той Янка, хамула, паненку абниме...
«О! смерць яго ўперэд с зямли гэтай прыме!»
Так чорные думы адна за другою
Снуюцца ў тырана, як стада зимою
Ваўкоў згаладалых, ня сытых николи,
Шукаючу жыру, валочуцца ў поли;
Валочуцца, аж дзе ахвяру спаткаюць
И выдзяруць сэрцэ, и вочы зглытаюць.
Эй, страшна, эй, жутка спаткацца з ваўками!
Страйшней жэ с тым зверам, што ўходзе
меж нами,
Як мы, чалавекам, а сэрцам пантэра;
О гэт'ки звер горшы за ўсякага звера!
Снуецца Лаўчынски па хаце, як мара.
Чорт цешыцца: будзе, для пекла ахвяра;
Што хвиля крываўшую зэмсту знаходзе;
Што хвиля чарнейшые мысли наводзе.
И шэпчэ: «—Забий! йдзи! як спиць у вадрыне,
«Ци ў садзе, як зловиш яго пры дзяўчыне,

«Ци ў леси, як пойдзе табе сеч бярвення,
«Але забий тольки, ня бойся сумлення!»
Яшчэ с сабой вальчэ, яшчэ агляну́ўся
На кут, дзе абраз быў; душой страхануўся;
Схвациў тапор востры рукой подлай, смелай,
И выскачыў с хаты глухи, азвярэлы.—
А хмары на неби ишли и стагнали,
И якбы бязбожнику грозна крычали:
— «Апомнися, грэшны, вярнися да дому!
«Аб гэтым ноч-маци не скажэ ни кому».

У вйосцы, так кажуць, жыве люд шчаслива,
Сжываецца з горам, и с працай, и з нивай;
У вйосцы у цихай люд, кажуць, меньш
грэшэ,
Пакусаў меньш мае, малым сябе цешэ.
И сцэнаў крывавых меньш найдзем у вйосцы;
Ну, праўда ж, як грушы растуць на бярозцы!
И ў местах, и ў вйосках шальмоўства вя-
дзецца,
А тольки у месци скарэй хто упьецца,
Скарэй и сагрэшэ, другога закрыўдзе;
У местах няўмысне сабаку забиў дзе,
А ўжо на свет цэлы разбрэшуць газэты,
Як бы генералам сабака быў гэты!
А ў вйосцы ж прыгледзься на крыўды, на
слйозы,
Што выльюць напрасна у спеки, ў марозы,
Што за сабак згине людзей нишчасливых.
У лесе пад дрэвам, з натуги на нивах,
А скольки на цйомных святлейшых чыгае,
И больш дзе хто с працы других карыстае?

Не скажэце ў местах, бо знаеце самі,
Што вйоска больш злита людзкими слязами.
У вйосцы, хоць горка пакрыўджэны плачэ,
Маўчаць кожны будзе так, як и не бачэ;
Занадта сляпы люд, занадта баицца,
Каб мог йон за крыўду сваю уступицца.
Праз тое и вйоску так хваляць паэты,
Найбардзей такие, што з'еўшы катлетаў,
Вином яким смачным катлет той закусяць;
О гэт'кие пэўна, а шчасци цець мусяць.

У пуни у панскай, як мертвы, спиць Янка,
Ня вышоў да саду спаткацца с каханкай.
(Таго дня да Минска паехала Зося).
Ой, дзиўныя часам сны ночка прыносе!
Вот Янка шчасливы, ўжо гора не знае,
За жонку ўжо Зосю харошую мае.
Ўжо ў новай хацинцы яна гаспадарэ,
А ў стайни ржэ коникаў сыцинких пара,
Саха валоў рослых, чатыры каровы
Скубецца на лузе; лясок жэ сасновы
Туж близка пры хатцэ сячэ Янка смела,
Да пана не маениякага дзела.
Ня трэба ўжо ўсякаму рук цалаваци.
Шмат мае йон поля и шмат сенажаци;
А ўсйо гэта працай дабыў йон пачцивай,
Як жыць пачали яны с Зосяй шчаслива;
Да трохи принесла яна и ў пасазе,
А важное—миласць, што лепш багатств князя
Ва ўсйом памагае руками и радай,
Прад йим не азвецца ни плачэм, ни звадай;
И робицца радосна Янку на сэрцы,

Што гэтак шчасливы, што ўжо ў паняверцы
Ня мучыцца горка, як 'перэд бывала:
Но раптам вот гэтага шчасця не стала..
Акропная видма падходзе, здаецца,
Зубами скрыгочэ и дзика смяецца.
Збудзиўся, глядзиць йон на здання благое,
И крыкнаў: «Паночак! за што? за якое...»

Спиць вйоска сном крэпким па працы, па
цяжкай,
Начлежники ў лузе пад буркай, сермяжкай,
А ў хатах дзеўчаты, и дзеци, и бабы,
На ложках, на лавах, на печы—дзед слабы,
Нидзе ани шуму, ни плачу, ни крыку;
Ня чуць и кляцьбы тэй, якой днйом бяз лику;
Алзин тольки вецер шамочэ бярозкай;
Сава загукала, гэт, недзе за вйоскай,
А далей ноч-пани, и пуста, и глуха...
Но вот даляцеў гук да чуткага вуха:
Што гэта?.. Збудзилися людзи с пасцели,
У цэркаўцы близкай званы загудзели,
Што гэта, што гэта? хоць поўнач на свеце,
Так видна, як сонцэ на небе ўжо свеце.
— «Пажар, гэй пажар!» так вакруг загудзела,
Крычаць: «Сабирайцесь!» — гасиць дружна,
смела.
Гарыць у дварэ у Лаўчынскага нешта;
Гасице, згарыць там будынкаў и рэшта!»
Сабралися людзи, но тольки па часе:
Нихто ўжо агню ни залье, ни загасе.
Ґарыць пуня панская, бухае пламям;
Крывавым на неби становицца знамям.

Бязсильны тут людзи, бязсильны их руки,
Хтож зближыцца к пламю на боли, на муки?
И... пуня згарэла. Тарчыць куча сена;
Дымяць галавешки, астатки ат сценаў;
Цягаюць их людзи з агню на староны.
Но, Божэ! што гэта? корч нейки звуглйоны...
Хто тольки ни ўзгляне, ўцикае с трывоги;
Корч мае людзкие и руки, и ноги!
Пры тулаве, знаць, галава чалавека—
Косць тольки: нимаш ни вачей, ни павекаў.
Пазнаў народ, што хтось згарэў с пуняй
разам,
Пакленчыў над трупам, якбы над абразам.
Пазнаци люд хочэ, хто марне так згинуў,
Свет гэты пакинуў, радню ўсю пакинуў?
Глядзяць, аж тут раптам енк страшны раз-
нйосся,
Аж кажны смуциўся, аж кажны затросся.
Енк гэт'кага жалю, енк гэт'кай балесци,
Што можэ душой и тырана затрэсци.
Так крыкне па страчэным любым дзяўчына,
И маци так енкне, хаваючы сына.
И маци тут родная труп той пазнала,
Пазнала таго ў ним, каго ўзгадавала,
Хто хлеба ей беднай насиў яшчэ ўчора,
Хто быўбы ей беднай на старасць падпорай.
Эх, сын яе родны, эх, Янка прыгожы
Ляжыць няжывым на пасцели, на божай;
Не ўстане на веки и свету не ўбачэ...
И плачэ так маци, и горка так плачэ;
А з ею, здаецца, и ночка галосиць,
И слйозы збирае, и к Богу заносиць.

Цiж добра, цiж лйогка? эй, пане, эй, мсцивы!
Што Янка у пуни згарэў нешчасливы?
Тваяж гэта, браце, рука учынила,
Што будзе на свеце аднэй больш магилай,
Аднэй больш магилай, а слйозаў бяз меры.
Прыгледзься, што зробиў ты ўзмахам сякеры?
Вот Янка забиты, вот Янкава маци
Убогая мусиць исци жабраваци,
Бо ўжо працаваци за стара, за слаба,
Ня то што мужчына, ат, ведама,—баба.
А што скажэ Зося, як з места прыедзе?
Што скажэ, як спаленым Янку угледзе?
Ну цешся, ну цешся пацехаю ката!
Ужо дамавина гатова на брата.
Цiж добра, цiж лйогка, эй пане, эй мсцивы!
Што Янка у пуни згарэў нешчасливы?
Так голос таемны пытаецца пана;
Но грысци сумленне цiж можэ тырана;
Раз тольки надумаўся збродню ўчынici,
Ахвяру праз зэмсту са евету згубици,
То пэўна што плакаць па збродни ня будзе:
Ня будзе йсци роўна, хто раз ужо зблудзе.
Свитае. Вот Зося ужо з Минска едзе,
Вясйолая цешыцца, Янку угледзе;
Усйо ей так милым, як лепей ня трэба,
И гэтые людзи, и поле, и неба;
И рада смяяцца, и рада спеваци,
И с хлопцам харошым пайсци пагуляци.
Прыехалаж панна на плач, не на йгрышчэ,
Убачыла с пуни адно пажарышчэ.
Што ўбачыла далей, сказаци ня можэ;
Два выбегли слоўцы: «о Iезу! о Божэ!»

И руки заломе, и крыкам шалйоным
Азвалася с жалю над Янкам звуглйоным.
На брата узгляне; маўчыць той панура,
Зубами заляскае, вочы зажмурэ.
Напрасна дзяўчына аткрыць праўду хоча;
Сжымаецца сэрца, цякуць слйозы з вочаў...
Га! чымся так жыци, лепш легчы у гробе.
У слйозах, у муках, у цяжкай жалобе
Праходзе дзень гэтак; ноч сциха ўжо пхнецца;
А Зося ни мйортва, ни жыва снуецца.
Прашла ноч, и раницу сонцэ прыгнала,
Дзеж панна? но панны с пасцели не стала.
Збудзилися слуги, и пан прабудзиўся.
Сястры нима дома; спачатку здзивиўся,
Но потым и чорные мысли абсели.
Цыж Зоси праз тоя не стала с пасцели,
Што спалены Янка?... Тут болей затрос,ся,
Заныла на сэрцы, страх нейки пранйосся.
И выскачэ с хаты, и крыкне на слугаў,
Заве ат работы, ат косаў, ат плугаў:
— «Эй, людзи! дзе Зося, дзе ваша паненка?
«Шукайце усюдых, за хатай, за сценкай;
«Была тут у хаце, няўжо яна ў поли,
«А можэ, а можэ... неўбачу николи!...
«Шукайце, шукайце! бярыце багацце,
Но тольки каб Зосю я видзеў у хатцэ»!...
Крычыць так Лаўчынски на ўсе на староны,
А дзика, а страшна, як звер, як шалйоны.
И збеглися людзи, шукаюць, гукаюць;
Напрасна! дзе Зося, дзе панна, не знаюць
Аж глянуў брат родны у сад на сасонку;
Висиць сястра пана, висиць на пастронку.

У тры дни дзьве ямы на трупы капали:
На мо́гилках Янку-хамулу схавали,
А далей, за мо̀гилки—гожу паненку,
Народ жэ над дзвйома малиўся и кленкаў.
Нябощикаў несли хаваць неяк зрана,
Пад вечар жэ везли ў вар'яцки дом пана.

Эй, кончана казка! Ну, як вам здаешца?
Ци праўды ў ей многа, ци лжэ, ци смяецца?
Мнеж верце, што гэта йосць праўдай звычайнай;
Спытайцеся тольки старэйшых пад Гайнай;
Там кажны з ахвотай разкажэ вам гэта.
Хоць там яшчэ гора людзей не апета;
Но ў вустных паданях жыве и жыць будзе,
И сведчыць сабою шчасливых а блудзе.
Закинеце, можэ, што ў казцы на пана
За многа усяких шальмоўстваў складана?
Нихай жэ багаты пан кепска ня чыне,
Напэўна и казка ня ў чым не абвине.
Бо што зробе бедны, з бяды што натворэ,
Такога и казка не так абгаворэ;
А створэж багаты дзе подласць якую,
И з роскашы праўду падопчэ святую,
Ни ў чым не дазнае ат прышласци ласки:
Таким не даруюць ни людзи, ни казки.

# Спис.

Стр.

Стр.

# АБМЫЛКИ.

Просим выбачиць, што праз недогляд верш «Шавец» знайшоўся тут выдрукаваным два разы: на стр. 40 и 118, а такжэ просим папpавиць вось гэтые абмылки:

| Стр. | Верш. | | Надрукавана. | Папраў и чытай. |
|---|---|---|---|---|
| 1 | 4 | зверху | песенку-думку | песеньку-думку |
| » | 15 | » | Беда, яго маци | Беда яго, маци, |
| » | 6 | знизу | и песен | и песняў |
| » | 2 | » | Долюб | Долю |
| 2 | 2 | зверху | стала | стала. |
| » | 3 | знизу | летамъ | летам. |
| 3 | 13 | » | дрозды гусь | дрозд ды гусь. |
| » | 9 | » | купйо. | куп'йо. |
| 4 | 16 | » | Як калиб | Я калиб |
| » | 12 | » | У хаце | Дома |
| 5 | 1 | зверху | С песняу | С песняў |
| » | 3 | » | Усимъ рад | Усим рад |
| » | 4 | знизу | Я змагц | Я змагчы |
| » | 3 | » | вузки, | вузки |
| 7 | 1 | зверху | высокинький | высокиньки |
| » | 15 | » | Нады лбом | Пад илбом |
| » | 20 | » | песенки | песеньки |
| » | 4 | знизу | Шумныя | Шумные |
| » | 1 | » | Дый не маю слйоз. | Ды нима ўжо слйоз. |
| 9 | 15 | » | и сыты | и сыт. |
| » | 13 | » | закрыты. | закрыт. |
| » | 7 | » | За кроў | Йон за кроў |
| » | 6 | » | Прыйдзе | Прыдзе |
| 12 | 10 | зверху | Многия | Многие |

| Стр. | Верш. | Надрукавана. | Папраў и чытай. |
| --- | --- | --- | --- |
| 12 | 14 зверху | Ў церкви | Ў цэркви |
| » | 16 » | Песянки | Песеньки |
| » | 4 снизу | Рэзак и нароги | От, рэзни-нароги |
| » | 3 » | Й палицу, узнимай-роль, | Палицу, ўзнимай-роль, |
| 13 | 12 зверху | Призьмай з дубцоў витай. | Прызьмом з дубцоў витым. |
| » | 15 » | А также й занозы | Такжэ и занозы |
| » | 18 » | трэба | трэба, |
| » | 19 » | была й на, | была й на |
| 14 | Пэред 1-ым зверху | | Запейма, як дужы, |
| » | 4 зверху | Тыж, сошка, | Ты, сошка, |
| » | 5 » | Я ж пан твой араты, | Я, пан твой, араты, |
| » | 6 » | Век бедны й голодны | Век бедны, голодны |
| 16 | 8 знизу | пачуем | пачуеш |
| 17 | 15 » | и тыя | и тые |
| » | 16 » | низинькия | низинькие |
| 18 | 15 зверху | Ў йой | У йой |
| » | 6 знизу | Загарак | Заґарак |
| » | 4 » | Учора | Учора |
| » | Помеж 3 и 4 знизу | прапушчэна | Так-не, так-не! |
| 19 | 6 зверху | То свабод | Йо свабод |
| » | 10 » | То зимли | Йо зямли |
| » | 6 знизу | Загарак | Заґарак |
| » | 5 » | доуга... | доўга |
| 20 | 6 зверху | Бязпрытонных | Заганяных |
| » | 11 знизу | гдзе, | дзе, |
| 22 | 1 зверху | На польскую | На старую |
| » | 12 » | Потам ў весь | Потам весь |
| » | 13 » | И увесь крывави | Весь крывавый плесняй |
| » | 16 » | Гоне йих, у | Гоне йих, и ў |
| » | 9 знизу | Едзець | Едзе |

| Стр. | Верш. | | Надрукавана. | Папраў и чытай. |
|---|---|---|---|---|
| 22 | 4 | знизу | Сабе й не | Сабе не |
| 23 | 2 | зверху | пазвадзе, | павадзе, |
| » | 13 | » | смутные | смутные |
| » | 12 | знизу | сасонник | сасонак |
| 24 | 1 | зверху | | Ой дана, ой дана! |
| » | 17 | знизу | Нигдзе | Нидзе |
| » | 11 | » | А устаць | А ўстаци |
| » | 9 | » | заханнем, | зиханым, |
| 26 | 9 | зверху | толка | тольки |
| 27 | 2 | знизу | кругом | кругом, |
| 28 | 1 | зверху | бяром | бяром, |
| » | 8 | знизу | абвеяў; | абсеяў; |
| » | 3 | » | Ах зноў | Аж зноў |
| 29 | 12 | зверху | усею душой! | усяею душой! |
| 31 | 4 | знизу | яще | яшчэ |
| » | 2 | » | гэт'кия | гет'кие |
| 32 | 1 | зверху | Бедны | Бедани, |
| » | 4 | знизу | Й змучаны | И змучан |
| 33 | 11 | » | шчасця, волю, — | шчасця ў волю,— |
| » | 8 | » | вясоласць | вясйоласць |
| 34 | 1 | зверху | Прыйшла | Прышла |
| » | 11 | » | Сапиць | Сапець |
| 35 | 14 | зверху | пий | пи |
| » | 2 | знизу | матачки, | матачки |
| » | 1 | » | Слаўца: | Слоўца: |
| 36 | 7 | зверху | робиць | рабиць |
| » | 12 | » | Хочыцца | Хочэцца |
| » | 13 | снизу | пазбыу | пазбыў |
| 37 | 9 | зверху | песенку | песеньку |
| » | 15 | » | зйми | з йими |
| 38 | 10 | знизу | йдзе? | идзе? |
| » | 3 | » | усю, | ўсю, |
| 39 | 1 | зверху | гэтай йих, | гэта йих, |
| » | 2 | » | разбудзиуй их | разбудзиў йих |
| 41 | 6 | » | Заработку | Заработкаў |
| » | 14 | » | Туды й сюды, | Туды, сюды, |
| » | 4 | знизу | бяз песен | бяз песняў |

| Стр. | Верш. | | Надрукавана. | Папраў и чытай. |
|---|---|---|---|---|
| 42 | 7 | зверху | песенка | песенька |
| » | 11 | знизу | Узбураны | Ўзбураны |
| » | 3 | » | море | морэ |
| » | 17 | » | Гюблю | Гублю |
| » | 12 | » | вольнымъ | вольным |
| 43 | 3 | » | Узбураны | Узбураны |
| 44 | 1 | зверху | Дзяучынка | Дзяўчынка |
| » | 4 | знизу | двюх | дзвюх |
| 45 | 8 | » | жордку | жэрдку |
| 46 | 12 | » | Свищаць | Свишчаць, |
| 47 | 7 | зверху | миласць да брата | миласць-дабрата |
| » | 12 | » | Лынула | Хлынула |
| » | 13 | » | у носе | ў носе |
| » | 18 | » | хлевох | хлявох |
| » | 19 | » | Адзываицца | Адзываецца |
| » | 5 | знизу | Глядзиць шыны на колах, ци збиты. | Глядзиць, ци шыны на колах узбиты. |
| » | 2 | » | ураджай спорны | ураджай, спорны |
| 48 | 4 | зверху | соцень шаекъ | соцень, шаек |
| 49 | 8 | » | такия | такие |
| 51 | 9 | знизу | возьмюць | возьмуць |
| 53 | 7 | зверху | у паняверцэ, | ў паняверцэ, |
| 56 | 18 | » | вочи | вочы |
| 57 | 1 | » | дляучынки, | дзяўчынки, |
| » | 3 | » | гучныя | гучные |
| 57 | 11 | знизу | на горах | па горах |
| 58 | 6 | » | як лучынка, | як лучынкай, |
| 60 | 12 | » | ца поли, | па поли, |
| 61 | 7 | зверху | й слйозаў морэ! | и слйоз морэ! |
| » | 16 | » | Палячу | Паляту |
| 62 | 2 | знизу | скаргу | скарґу |
| 63 | 3 | зверху | дубы хвойки, | дубы, хвойки, |
| » | 3 | знизу | Не лячу | Не ляту |
| » | 1 | » | то й сэрцэ | то сэрцэ |
| 64 | 4 | зверху | славе б кликаў | славе кликаў |
| » | 5 | » | Як йон, сад я хатку, | Як йон сад, я хатку |

| Стр. | Верш. | Надрукавана. | Папраў и чытай. |
|---|---|---|---|
| » | 5 знизу | (книгоўка) | выкинуць: ня треба. |
| 67 | 3 зверху | вадзицы | вадзицы, |
| » | 4 » | просиць | просиць, |
| 70 | 9 знизу | па загонах | па загонах, |
| 74 | 1 зверху | не крыўду | не крыўдуй, |
| 79 | 6 » | цвяло | цвяло. |
| 87 | 20 » | жеже | жджэ |
| 107 | 13 » | гэтакъ | гэтак |
| 112 | 4 » | Сцэопки | Сцйопки |
| 121 | 2 » | дзень за днем | Дзень за днйом |
| 123 | 3 » | скаргаў | скарґаў |
| » | 4 » | скаргах | скарґах |
| 125 | 9 знизу | брат | брат, |
| » | 8 » | скажецэ; пеўна, | скажэцэ пеўна |

